PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (2048) ГОД XL БЕЛАСТОК 13 ЖНІЎНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## Дзеля таго, каб застацца самім сабою

Калі ў рэдакцыі паяўляецца высокая постаць айца Рыгора Сасны, так і знай: бацюшка прынёс новы матэрыял у друк. Нячаста здараецца, каб свяшчэннік, у якога хапае прафесійных заняткаў, так апантана, так бескампрамісна аддаў сябе навуковай дзейнасці. Робіць гэта ўжо шмат гадоў у імя абароны праваслаўя, ахвяруючы свой час і сродкі.

13 жніўня 1995 года айцец Рыгор Сасна святкуе 35-годдзе сваёй пастырскай дзейнасці. 8 жніўня 1960 г. ён быў рукапаложаны ў дыяканы, а 15 жніўня таго ж года — у свяшчэннікі. З таго часу пройдзена немалая дарога.

Ад 1987 года ён — настаяцель у Рыбалах. Не зачыняюцца дзверы на плябанію. Кожны можа зайсці ў гэту хату, пагутарыць, напіцца чаю. Ужо другі вялізны альбом запаўняюць госці не толькі з Беласточчыны і Беларусі, але і з цэлага свету — сваімі ўвагамі і падзякамі. З Расіі, Фінляндыі, Швейцарыі, Грэцыі, ЗША, Балгарыі, Германіі. Усе — праваслаўныя людзі.

Свяшчэннік не стаіць убаку ад грамадскіх спраў людзей, сярод якіх жыве. Цешыць яго, што ажылі (і не без яго дапамогі) „Хлопцы-рыбалоўцы" — вядомы мясцовы калектыў, не чужыя яму праблемы вады ў вёсцы, ці новых тратуараў. Пра жыццё парафіі бацюшка вядзе дакладную хроніку. На плябаніі распаўсюджваецца 30 экземпляраў „Нівы".

Людзі прыходзяць да яго параіцца, просяць заступіцца, дапамагчы. Нікому не адмовіць. А ёсць жа яшчэ і матушка, якая ва ўсім спрыяе мужу.

Найвесялей на плябаніі, калі з Беластока і Бельска прыязджаюць унукі Каця, Андрэй і Ганулька. Найбольш сумна — калі айцец Рыгор выязджае ў свет: на навуковыя канферэнцыі ў Беласток, Гданьск, Лондан ці яшчэ куды, або пакапацца ў архівах Пецярбурга ці Менска. Кажуць, што не кожнаму гісторыку ўдаецца знайсці тое, што знайшоў гэты свяшчэннік. А факт ёсць факт.

Напярэдадні 35-га юбілею свяшчэнства айца **РЫГОРА САСНЫ** ў яго перапоўненым кніжкамі кабінеце гутарыць з ім **АДА ЧАЧУГА**.



* * *

— Я гадаваўся фактычна без бацькі, маёй маці дапамагалі браты і сёстры. Зямля была нашай карміліцай і радасцю. Пасля вайны не было ў нас ні кала, ні двара. Усё дашчэнту згарэла. Жылі ў зямлянцы. Дзядзькі вырашылі паслаць мяне ў „хатнюю" школу ў родных Шэрнях, хатнюю — у тым сэнсе, што мы хадзілі па хатах, сёння ў аднаго, заўтра — у другога, а настаўніку плацілі ці не збожжам. Пасля былі два класы ў школе ў Малінніках, куды трэба было ісці тры кіламетры. Жылі ўжо тады на хутары. За мною былі чатыры класы, а пяты-сёмы класы я заканчваў у Орлі — сем кіламетраў.

*Працяг на стар. 9*

## ДАЙЦЕ ХАЛОПУ ПАНАМ СТАЦЦА!

Паказальнымі здаліся вынікі акцыі Беларускага саюза ў справе вяртання гістарычных назваў многім мясцовасцям у Беластоцкім краі. Часта перайначаны яны нелегальна, па фанабэрыі рэферэнтаў або, звычайна, паўанальфабетаў. І хоць адназначна гэта даказана, гміны супраціўляюцца, не хочуць упарадкавання таго балагану. Можна іх зразумець — бюралісты ніколі не любілі моцна папрацаваць. А радныя як радныя: што скажа войт, тое і свята. Бо ў кожнага з іх свой ціхі інтарэс да яго. Змагацца за імя не будзе, на халеру яму тое, — хлеба ім не памажаш ані свіння ад гэтага не патлусцее ў хляве.

Зусім іначай бачыцца такі ж супраціў у гаспадароў. Здавалася б, што ім шкодзіць, каб вярнуць родны мясцовасці даўнюю назву яе, адкінуўшы штучную, прыдуманую якімсьці дурнем, хварэючым на пана. Ды не, пратэст супроць родным імёнам для вёсак, беспадстаўна перахрышчаным у чорт ведае якія, яшчэ больш гарачы, фанатычны. У польскіх газетах гэтага не разумеюць. Здзіўляюцца, публікуючы слёзныя просьбы сялянак і сялян пакінуць ім на вякі вечныя здуманыя назвы замест праўдзівых.

Пытаюць у мяне палякі: што гэта за такі дзіўны народ з вас, беларусаў? Адказваю ім: гэты народ з даўён-даўна дзіка баіцца вас, палякаў, што вы будзеце душыць яго за ягоную беларускасць. Гэты народ прыняў інфантыльна просценькую тактыку выратавання: зрабіцца менавіта самім палякамі. Вон нацыянальную культуру, вон мову, усё з духам вон, каб толькі біялагічна выжыць. Такое ў нашых людзей бачанне перспектыў польска-беларускай дружбы ў Беласточчыне. А тутэйшыя палякі-асімілянты нясцізана падкрэсліваюць сваю талерантнасць да беларусаў, якую разумеюць як гарантаванне імі права на імгненную паланізацыю. У маіх Крынках не раз давалі мне адчуць, што маё існаванне тут у ролі беларуса надта неразумнае і, нават, небяспечнае для грамадскага міру (пагражае мястэчку вось выбухам нейкае міні-Босніі, відома, у выглядзе Сакрата Яновіча з нажом у зубах). Асабліва ад моманту, калі аказалася, што Рэспубліка Беларусь толькі прыкідвалася незалежнай і беларускай, а папраўдзе савецкая яна надалей, заядла бальшавіцкая, значыць, і антыпольская, бо ідзе рука ў руку з адвечным ворагам Польшчы, з маскалём!

Прыглядаюся да мясцовых халопаў, якія, дачуўшыся пра спомненую акцыю Беларускага саюза, упалохаліся да паўсмерці, да першага ўсёру, і — што горш! — пакрыўдзіліся на Яновічаў як непасрэдных выканаўцаў волі тых беларускіх арганізацый. Усё беларускае — гэта ганебна мужыцкае, не панскае. Мужыку сніцца быць панам і калі пан у гміне „апаніў" назву яго вёскі, дык пане, вельмі добра, цудоўна!

Акцыя Беларускага саюза ўспрынята як спроба хітра вярнуць — хоць у назвах — колішнюю ганьбу мужыцкага лёсу. І мужыцкі народ, які так і не зразумеў калісьці Кастуся Каліноўскага-Хамовіча, сцяною паўстаў цяпер супраць беларусаў якраз, каб абараніць сабе падсунуты яму гісторыяй шанц вылупіцца ў панства. Такая псіхалагічная праўда заядлай самапаланізацыі Беластоцкага краю.

**Сакрат Яновіч**

## САНІТАРЫ ЭКАНОМІКІ

Напачатак Барыс зазначае, што ён ужо гэтым *делом* не займаецца. Ды па ім і не пазнаць *рускага*, якога прывыклі мы бачыць на базары. Ясная, расшпіленая пад шыяй кашуля, лёгкія летнія штаны шэрага колеру, такія ж шкарпэткі і бразільскія сандалі з добрай скуры. Крыху здраджвае ўсходні акцэнт, хаця гаворыць па-польску плаўна і граматычна правільна. Яго фігура — 190 сантыметраў росту, шырачэзныя плечы, мускулы якіх добра відаць праз кашулю, вялікія і моцныя далоні — як бы не супадае з маладжавым і нейкім такім наіўным тварам — курносым, з сінімі бы валошка і, здаецца, шчырымі-шчырымі вачыма. Светлыя валасы абстрыжаны коратка, але не аж так, як у малойчыкаў у спартыўнай вопратцы, якія круцяцца на кожным базары або ганяюцца па чатырох-пяцёх на паднішчаных „Аўдзі" ці „Бэмвэ" па галоўных дарогах захад-усход.

— *Барыс, як стаць рэкецёрам?*

— 90% гэта былыя баксёры, барцы, тыя, хто служыў у дэсанце. Проста, хто ўмее біцца. Яны ўсе ведаюць адзін аднаго і падбіраюцца па-знаёмству. Быў нават такі выпадак, летась, што на канікулах прыехалі падзарабіць студэнты Менскага інстытута фізкультуры.

— *Ці многа сярод іх афганцаў?*

— Усе, каго тут паслухаеш, дзе яны толькі і не былі! А ў Афганістане то кожны *быў* абавязкова. Вядома, ніхто праўды табе не скажа. Я сам з гэтым не сустрэўся, але чуў, што афганцы прыязджаюць сюды браць грошы з рэкецёраў.

— *Адкуль рэкецёраў найбольш?*

— Узялі мяне раз на камісарыят паліцыі на Кавалерыйскай, што каля гэтага вялікага беластоцкага базару, а там на сцяне вісіць вялікая карта былога Савецкага Саюза. Крыху мяне там патрымалі, дык я дакладна ёй прыглядзеўся. На карце чырвоным колерам пазначаны пэўныя месцы. Як ты думаеш, навошта паліцыянту значыць той ці іншы горад? Я поўнасцю перакананы, што гэтая карта паказвае, адкуль людзі, якія ўвайшлі ў канфлікт з польскімі законамі. Дык вось, па ўсёй Прыбалтыцы не было ніводнага чырвонага знака. А вось усе вялікія беларускія гарады — Менск, Брэст, Гродна, Віцебск, Гомель, Магілёў — былі пазначаны. Ну, яшчэ некалькі гарадоў расейскіх, каўказскіх, з Сярэдняй Азіі. І Украіна — там няма горада, каб не быў абведзены чырвоным колерам.

— *Ці на базары выступаюць міжнацыянальныя канфлікты?*

— Ну якія канфлікты? Можа гэта быць працяг тых савецкіх, скажам, армяна-азерскіх ці армяна-грузінскіх. Але, наогул, вырашаюцца яны не крывавым шляхам, найхутчэй хтосьці камусьці ашукае, падставіць. Але, каб якая вайна, то не.

— *І так, у міжнароднай кампаніі аграбліваеце бедных людзей.*

— Ну, ты ўжо з гэтай бядой. Запомні, на гандаль едуць не бедныя, а тыя, у каго ёсць чым гандляваць. І сувязі. Ты паглядзі, што ў малыя гарадкі прыязджаюць увесь час тыя самыя. Напрыклад, у Бельску армяцкі гандлююць спіртам і нейкай турэцкай вопраткай, якую бяруць ці то на стадыёне Дзесяцілецця ў Варшаве, ці ў польскіх аптовых складах. У базарным гандлі існуе спецыялізацыя, ёсць, скажам, тыя, якія перакідаюць тавар праз мяжу і тыя, якія апанавалі ўнутраныя польскія шляхі. Ды і штораз больш людзей, асабліва расейцаў, прыязджаюць у Варшаву рабіць пакупкі. Для іх тут элегантна і намнога танней, чымсьці ў сябе. Вось ідзе паляванне на тых бізнесменаў, якія сюды за пакупкамі едуць. Яны нават са зразуменнем ставяцца да рэкецёраў, ну што ж, у мяне свой бізнес, у цябе свой. Забралі грошы, значыць перахітрылі, нічога не зробіш, цана рызыкі. Ды яму тых некалькіх тысяч баксаў, нават не вялікія грошы. Ён іх у сябе хутка адпрацуе.

— *Кажаш, некалькі тысяч долараў не вялікія грошы?*

— Ну, зразумела, не для ўсіх. Але ты сабе не ўяўляеш, як многа сюды прыязджае якраз такіх, што на гэтую суму могуць махнуць рукой. Для большасці, вядома, кожны долар штосьці значыць, але сапраўдны рэкецёр ніколі не абярэ дагала. Таксама пазбягае прымянення сілы. Запалохаць, гэта іншая справа, а часта проста і абдурыць. На самой справе ўсё праходзіць надзвычай мірна. Падыходзяць два-тры чалавекі, адразу відаць, што былыя спартсмены і кажуць: „Ты, спекулянт, разваліў эканоміку былога

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Сэрца і душа абліваюцца крывёю і крыўдай ад таго, што творыцца па маёй Радзіме — Беларусі. Гэта проста нейкі абсурд, што прынялі той сцяг, пад якім столькі згублена душ у Сібіры і на Салаўках, у сталінскіх лагерах смерці. Колькі таленавітых людзей загінула ў тых мейсцах! Я проста быў шакіраваны, калі „Астанкіна” аб’явіла, што над Мінскам развяваецца чырвона-зялёны флаг. Гэта ганьба нацыі перад усім светам. Вядома, Расія вітае беларускі рэферэндум. Але я жыву на Украіне, а мае знаёмыя ўсё пытаюць: „Што ж вы, беларусы, так падвялі, як можна было такое дапусціць?”*, — піша Уладзімір Бурко.

*Голас Радзімы, н-р 25—26*

* * *

*Ostatni spis wykazał 418 tys. Polaków na Białorusi. Zgodnie z kościelnymi statystykami, na Białorusi jest ok. 2,5 miliona katolików, co w praktyce oznacza tyle samo Polaków,* — сказаў Тадэуш Малевіч, намеснік старшыні Саюза палякаў на Беларусі.

*Gospodyni, 16.07.1995 r.*

* * *

*Dalekosiężnym zamierzeniem władz Rzeczypospolitej wobec mniejszości polskiej na Wschodzie, jest wsparcie odbudowy tożsamości narodowej, kultury, języka i więzi z Macierzą,* — сказаў міністр замежных спраў РП Уладыслаў Барташэўскі падчас адкрыцця консульства ў Гродне.

*Głos znad Niemna, nr 25*

* * *

*Każdy z nas ma tysiące sposobów, żeby skrócić sobie życie: jeść dwadzieścia jajek dziennie, popijać piwo z arszenikiem, wdychać powietrze w Katowicach, kąpać się w Sopocie, pić wodę z kranu w Krakowie, czytać prasę katolicką, pływać w Wiśle pod Płockiem, wybrać się na piknik do Czarnobyla.*

*Polityka, nr 29*

* * *

*У заяве для прэсы з нагоды візіту ў Рэспубліку Беларусь Прэм’ера Кітайскай Народнай Рэспублікі Лі Пэна А. Лукашэнка падкрэсліў, што „ў нас падобная ідэалогія, так што нам проста дагаварыцца з кітайскім бокам”.*

*Наша слова, н-р 29*

Хто б падумаў, што і ў Беларусі так будуць шанаваць спадара Мао.

* * *

*Z wielkimi fanfarami coraz biedniejsza Białoruś obchodziła pierwszą rocznicę wyboru Aleksandra Łukaszenki na prezydenta, który najprawdopodobniej okaże się ostatnim. W bliskiej perspektywie Białoruś połączy się z Rosją. Od wychwalania osiągnięć prezydenta zachłystywały się wszystkie mińskie gazety, a telewizja bez przerwy bębniła o jego sukcesach. Sam Łukaszenko również wziął udział w propagowaniu swojej osoby. W wywiadzie udzielonym telewizji użył wobec siebie określeń, które bardziej pasują do przewodniczącego kołchozu niż do głowy państwa. Oświadczył m.in., że jest prezydentem poważnym i na długie lata, oraz, że uważa się za męża stanu, nadmienił również, że sytuacja w gospodarce się stabilizuje. Tymczasem według danych opublikowanych w Mińsku tuż przed jubileuszem Łukaszenki, produkcja w ciągu pięciu pierwszych miesięcy zmniejszyła się o 11 proc. w stosunku do analogicznego okresu roku ubiegłego. Większość białoruskich gigantów przemysłowych wykorzystuje tylko 25 proc. swoich możliwości produkcyjnych. Większość nie płaci też pensji swoim pracownikom. Liczba zarejestrowanych bezrobotnych wynosi 2 proc. ludności czynnej zawodowo. Ale gdyby zlikwidować ukrywane przez Łukaszenkę bezrobocie, to na bruk trafiłoby od razu 1,5 mln ludzi czyli 35 proc. ogółu zatrudnionych.*

*Łukaszenki dane te zdają się zupełnie nie obchodzić. W ciągu 12 miesięcy wcielił na Białorusi pochodzący z Trzeciego Świata styl sprawowania władzy z tą tylko różnicą, że z „bananowej” przekształcił Białoruś w „republikę kartoflaną”.*

*Najwyższy Czas, nr 29*

* * *

*Кожнаму жыхару Беларусі цікава ведаць, што адбываецца ў ягонай краіне. Аднак задаволіць гэтую цікавасць праз Беларускае Тэлебачанне практычна немагчыма, хаця выпускі навінаў выходзяць рэгулярна. Глядач абавязкова ўбачыць прэзідэнта. Прэзідэнт, прэзідэнт, прэзідэнт!*

*Свабода, н-р 28*

* * *

*30 proc. prostytuujących się w Berlinie to Polacy. W ostatnich latach stolica Niemiec stała się największym rynkiem usług seksualnych w Europie. Jest to jedyna dziedzina, którą — wśród obcokrajowców — zdołali zmonopolizować Polacy. Wśród cudzoziemek Polki zajmują drugie, po Tajkach, miejsce. W ostatnim czasie pojawia się jednak coraz więcej sezonowych prostytutek, kilkunastoletnich dziewcząt, które falami przyjeżdżają do Berlina w okresie ferii. Młode Polki zostają kilka tygodni, czasem miesięcy, po czym z zarobionymi pieniędzmi wracają do domu, „by prowadzić normalne życie”. Stanowią konkurencję dla polskich „profesjonalistek”. Są dzikie. Zachowują się tak, jakby niczego nigdy nie widziały. Przyjeżdżające do Berlina trzynasto-, szesnastoletnie dziewczyny robią wszystko bez prezerwatywy. Dosłownie wszystko, co tylko można sobie wyobrazić. Sporo jest kobiet, które zostawiły w Polsce mężów, dzieci, i są teraz w takim transie, że ani myślą wyjeżdżać. Słowo „Polka” stało się bardzo popularne i oznacza pewien środowiskowy image, który się dobrze sprzedaje. Wiele Rosjanek, Czeszek i Ukrainek nagminnie podaje się za „polskie modelki”.*

*Wprost, nr 30*

* * *

*Jedynym logicznym i racjonalnym rozwiązaniem problemów komunikacyjnych Białegostoku byłoby metro — szybkie, ukryte pod ziemią, ekologiczne.*

*Gazeta Współczesna, nr 149*

А ў Міхалове абавязкова патрэбны аэрадром для хуткага транспарту людзей і тавараў у Беласток і з Беластока.

# З мінулага тыдня

**Кардынал Казімір Свёнтак**, архібіскуп Магілёўска-Менскі, апостальскі адміністратар Пінскай епархіі атрымаў з рук прэзідэнта РП **Леха Валэнсы** Камандорскі Крыж з Зоркай Ордэна Адраджэння Польшчы. Прэзідэнт такім чынам узнагародзіў працу кардынала ў карысць прыбліжэння палякаў і беларусаў і яго дапамогу для беларускіх дзяцей, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Рада па справах польска-яўрэйскіх адносін пры Прэзідэнце РП** выказала пратэст супраць антысеміцкіх элементаў, якія паяўляюцца ў выбарчай кампаніі.

**Шэф Канцылярыі Прэзідэнта РП Томаш Квяткоўскі** наведаў Беласток, дзе правёў размовы з уладамі горада наконт узнікнення самастойнага універсітэта. Міністр Т. Квяткоўскі прыхільна ставіцца да ідэі стварэння ў Беластоку універсітэта, які стварыў бы шанц цывілізацыйнага развіцця для ўсяго паўночна-ўсходняга рэгіёна Польшчы.

**З нагоды Дня Незалежнасці Беларусі** Генеральнае консульства РБ у Беластоку арганізавала ў беластоцкім рэстаране „Асторыя” ўрачысты банкет. Сярод гасцей былі прадстаўнікі ваяводскіх і гарадскіх улад, духавенства, дзеячы беларускіх арганізацый Беласточчыны. Урачыстасць была прымеркавана таксама да інаўгурацыі дзейнасці **Міхаіла Слямнёва** на пасадзе Генеральнага консула РБ у нашым горадзе.

З канцом жніўня пачнуцца перагаворы ў справе будучыні **Супрасльскага манастыра**. Па даручэнню прэм’ер-міністра **Юзэфа Алексага** перагаворы будзе весці **Марэк Пэрналь** — шэф Бюро па справах веравызнанняў пры Управе Рады Міністраў. Праваслаўнай царкве права на манастырскія будынкі адмаўляе Каталіцкі касцёл, які нядаўна давёў да прызнання несапраўдным рашэнне колішняга шэфа УРМ **Яна Марыі Ракіты** аб перадачы манастыра праваслаўным.

Польскае тэлебачанне пачало дэманстрацыю **тэлеперадач для нацыянальных меншасцей на іх мовах**. Дзесяцімінутныя перадачы будуць выходзіць у тэлеэфір у рамках „Тэлевізійнага кур’ера крэсовага” па нядзелях а гадз. 18.50 у II праграме. Першая беларуская праграма з’явілася на тэлеэкранах 6 жніўня, а літоўская паявіцца 20 жніўня г.г.

**У Кузніцы-Беластоцкай** у 1996 г. пачнецца будова акружной дарогі да гранічнага перахода. Такім чынам транспартны рух у напрамку граніцы абміне вузкую і запоўненую вуліцу Сакольскую — галоўную артэрыю гэтага мястэчка. Будова мае быць завершана на працягу двух гадоў.

**Управа гміны Новы Двор** хадайнічае перад ваяводскімі ўладамі аб адкрыцці гранічнага перахода ў **Хварасцянах**, з якіх у Гродна ўсяго толькі 10 км. Кантрольна-прапускны пункт у гэтай мясцовасці паспрыяў бы змяншэнню чэргаў грузавых аўтамашын на граніцы пасля закрыцця перахода ў Баброўніках, а таксама стварыў бы шанц гаспадарчага развіцця гміны.

Каля мясцовасці **Ліпск** польскія пагранічнікі затрымалі **беларускага салдата**, які дэзерціраваў з пагранічнай часці і нелегальна перайшоў на польскі бок. Салдат у ваеннай форме, без зброі, перамяшчаўся пешшу. Пасля затрымання і допыту дэзерцір быў перададзены беларускім гранічным службам.

**Уладзімір Верамейчык з Гродна** стаў пераможцам VII шахматнага турніру з цыкла Гран-пры, які адбыўся ў Аўгустове. У двухдзённым спаборніцтве прыняло ўдзел 94 шахматыстаў з Польшчы, Літвы і Беларусі.

# Праз тыдзень у „Ніве”

> Як у Тафілаўцах грыбы граблямі збіраюць, — піша Славамір Кулік.

> Як дажыць ста гадоў у добрым здароўі, — пытаўся жыхара Навасёлкаў Васіль Петручук.

> Ці Беларусь здольная на самастойнасць, — разважае Сакрат Яновіч.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Дзень Незалежнасці

Шэраг святочных мерапрыемстваў было прымеркаваных да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні свята ў Дзяржаўнай філармоніі адбыўся ўрачысты канцэрт майстроў мастацтваў, папярэджаны дакладам прэм’ер-міністра Міхаіла Чыгіра. 27 ліпеня прадстаўнікі ўрада ўсклалі кветкі да абеліска на плошчы Перамогі. Для жыхароў Менска ў выставачным комплексе „Менск-Экспа” быў арганізаваны бясплатны прагляд габелена стагоддзя — самага вялікага (14 х 19 м) у свеце габелена, створанага беларускім мастаком Аляксандрам Кішчанкам. У гэты ж дзень у мікрараёнах сталіцы і ў Парку культуры і адпачынку імя Горкага прайшлі масавыя гулянні. Урачыстасці ў Менску завяршыліся святочным салютам.

## Альтэрнатыўныя святкаванні

Менскі гарвыканкам дазволіў ініцыятыўнай групе, у саставе якой дзеячы культуры, прадстаўнікі БНФ і шэрагу іншых дэмакратычных партый, правесці 27 ліпеня святочны мітынг і канцэртную праграму ў Парку імя Янкі Купалы з нагоды Дня Незалежнасці. Той жа гарвыканкам адмовіў у правядзенні ў гэты дзень шэсця ад плошчы Незалежнасці да Парку Купалы. Шэсце аднак адбылося (пішам аб гэтым на 4 старонцы).

## Патрыяршы візіт

Падчас пабыўкі ў Беларусі патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II завітаў на Гродзеншчыну. Візіт пачаўся з наведання воінскіх могілак у абласным цэнтры, ускладання вянка і кароткага малебна ў памяць загінуўшых воінаў-вызваліцеляў. Затым Алексій II адправіў літургію ў Свята-Пакроўскім саборы, асвяціў храм у гонар св. Вольгі. У малітоўных урачыстасцях прымала ўдзел паўтысячная група праваслаўных вернікаў з Польшчы з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савам на чале. Адбылася таксама сустрэча ў Абласным выканаўчым камітэце, дзе вялікага госця прымаў старшыня Аляксандр Дубко.

## Вяселле лідэра

23 ліпеня ў касцёле св. Станіслава ў Магілёве адбыўся шлюб Зянона Пазьняка і Галіны Вашчанка. Жонка старшыні Беларускага народнага фронту ўзначальвае дабрачынны камітэт „Дзеці Чарнобыля” і з’яўляецца дэпутатам Менскага гарадскога савета.

## Свята ў Ракуцёўшчыне

Традыцыйнае свята паэзіі і песні, прысвечанае Максіму Багдановічу і прымеркаванае да Дня Незалежнасці, адбылося ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна. Месца і час яго правядзення абраны невыпадкова — у 1911 годзе ў Ракуцёўшчыне жыў і працаваў адзін з самых адданых сыноў Айчыны. Тут ужо год як дзейнічае філіял Літаратурнага музея Багдановіча. З выпадку свята была адкрыта новая музейная экспазіцыя, прайшоў конкурс на лепшы панадворак і лепшую гаспадыню вёскі, выступалі вядучыя мастацкія калектывы Маладзечаншчыны.

## Фронт супраць АЭС

Беларускі народны фронт адмоўна ставіцца да ідэі будаўніцтва пад Баранавічамі атамнай станцыі. Па словах Сяргея Навумчыка, Фронт ад пачатку сваёй дзейнасці выступаў супраць будаўніцтва атамных станцый на тэрыторыі рэспублікі і ўжо ўвосень 1988 года меў прамое дачыненне да акцыі накіраванай супраць будаўніцтва АЭС пад Віцебскам. БНФ прывёў некаторыя аргументы, якія даказваюць, чаму ў Беларусі не павінна быць атамных станцый. Сярод іх — тое, што Беларусь знаходзіцца ў акружэнні атамных станцый, размешчаных на тэрыторыі суседніх дзяржаў: Чарнобыльскай, Ровенскай, Смаленскай, Ігналінскай. Пакуль ніхто не можа даць гарантыі бяспекі атамнага рэактара як у СНД, так і на Захадзе.

## Уніформа для чыгуначнікаў

У беларускіх чыгуначнікаў хутка з’явіцца новае форменнае адзенне. Рашэнне наконт гэтага кіраўніцтва чыгункі прыняло яшчэ вясной і тады быў аб’яўлены конурс на лепшы эскіз новай формы. У конкурсе, дарэчы, ніхто не прыняў удзелу і за справу ўзяліся работнікі атэлье Упраўлення рабочага забеспячэння Беларускай чыгункі. Яны распрацавалі і пашылі свае ўзоры форменнага адзення, у якім чыгуначнікі будуць сябе адчуваць больш камфортна. А купляць форму кожнаму чыгуначніку прыйдзецца за свае грошы.

## Клопат прызёра

Сусветная арганізацыя якасці сёлета прысудзіла адзін са сваіх прызоў Віцебскаму канструктарскаму бюро станкабудавання. Цырымонія ўручэння ўзнагарод адбудзецца 21—22 верасня ў Жэневе. Цяпер перад вядомым беларускім канструктарам Уладзімірам Сітавым стаіць невырашальная праблема: дзе ўзяць тры тысячы фунтаў стэрлінгаў, каб з’ездзіць за прызам у Швейцарыю.

# Невыносная гарачыня

— Мошка?

— Бывала заўсёды!

— А там кляшчы! Сам іх меў тысячы на целе. Прыйдзеш з лесу, скінеш шапку і трась імі аб сцяну...

— Гавораць, што слімак з Ланьцута паўзе...

— Ну, стонка*, — згадзіліся ўсе субяседнікі, — самая

**паскудная накідзь.****

У Рыбалах прывыклі змагацца з каларадскім жуком. Тры—чатыры разы пасыпвалі ўжо бульбу хімічнымі прэпаратамі.

— Як туолькі картопля зыдэ, то ўжэ чырвона од стонкі. Колі б мы йэ нэ прыскалі б, то і нэма пошто садіті, — жаліцца напатканы пенсіянеры.

— Хаця ў нас сваёй бульбы няма, то ад суседа стонкі набраліся. Пачала агарод жэрці. А пазней, бачу, на яблыні накінулася. Аж страшна глядзець на ўсё гэта, — дадае адна жанчына.

У Канюках — як і ў Рыбалах.

— Няма добрых *сьродкаў*, а калі пасыпаць бульбу атрутай, то лепш бы яе стонка з'ела, — наракаюць земляробы. У гэтым годзе прадбачваюць добры ўраджай.

— Мошка купусту пачала есці, але чамусьці кінула, — дзівавалася гаспадыня, што якраз палола агарод.

— Мне мала жыцця ўжо асталося. Няма там чаго хіміі баяцца, — пачала свой расказ старэча, — на адных лякарствах жыву. Амаль уся пенсія на гэта ідзе.

— Стонку ўзнагароды распаўсюдзілі, — пачаў самы вопытны субяседнік, — ведаеце што такое

**люстрацыі?**

Пра стонку ў Канюках ці Рыбалах пачулі ў канцы 50-х гадоў. Прыязджалі з гміны спецыяльныя *па лініі ральніцтва* чыноўнікі і рабілі даклады пра каларадскага жука. Там-сям чулася, што ў нейкай ужо вёсцы стонка з'ела ўсю бульбу. Гэта як нішто падбадзёрвала прагу змагання з амерыканскім паскудствам. Пазней ладзілі *люстрацыі* — склікалі ўсю вёску і ішлі шукаць амерыканскую *накідзь*. Кожны гаспадар меў абавязак даць свайго дэлегата. Той звычайна пасылаў дзяцей або старэч, каб самому дурніцамі не займацца.

— Займалі мы па два радкі і ішлі кіламетр, бо ў нас тады яшчэ цераспалосіца была, — успамінае дзядзька з Рыбал.

— Калі не было сонца, нас павучалі, шукайце яе пад лісцём, — прыгадваюць у Канюках.

— А калі сустрэў падзіраўленае лісце, ці сцёблы, то гэта месца значылі і паведамлялі гміну. Неўзабаве з'яўлялася спецгрупа, якая нішчыла цэнтры заразы. Раскопвалі поле і пасыпалі яго азотным угнаеннем, — дадае нехта іншы. Так змагаліся са стонкай, што не аднаму поле змарнавалі. У Канюках усе дзіваваліся, што амерыканская пошасць да іх лезе. Не ўсе, аднак, паверылі жудасным чуткам. У тыя часы многія маладзёны зараблялі ў сувальскіх ці альштынскіх ПГРах. Стонка іх не палохала.

— Мы там яе рукамі збіраем, — усведамлялі недаверлівых аднавяскоўцаў.

— Гэта яны, калі знюхалі пра ўзнагароды, пачалі сюды яе валачы. Хапіла, як кожны штук дзесяць дзеля свайго інтарэсу сюды прывёз. За стонку плацілі трыццаць злотаў. Кіне такі штук дзесяць перад *люстрацыяй* і на работу ў Прусію ўжо ехаць не трэба. Так і распаўзлася, — успаміналі вяскоўцы.

— У нас і без стонкі сваёй

**бяды хапае,**

— паўсюдна наракаюць у Рыбалах. — Усё кляшчамі страшаць. У нас іншая пошасць. Цяжка жывецца пры такой гуллівай вуліцы. І паветра цяжкае, як у горадзе, — расказвае жыхар вёскі.

— Калі праязджае вялікая аўтафура, то хата ўся трасецца, — дадае яго жонка.

— Я то аднойчы сеў на лавачцы і пачаў лічыць самаходы. За пяць хвілін сто дваццаць машын праехала. І людзі гінуць.

У Рыбалах пад коламі загінула ўжо 22 асобы.

— А ад кляшчоў то мы не чулі, каб нехта памёр, — сумна заявілі пенсіянеры.

Канюкі, хаця і далёка ад гуллівай шашы, распалажаны ў чароўнай прынарвянскай даліне, але іх жыхары не цешацца жыццём. Вёска амаль апусцела ад маладых людзей.

— Калі пабудавалі вадасховішча ў Семяноўцы, рэчка паменшылася ў чатыры разы. Бываюць месцы, дзе пераскочыць Нарву можна. Прападае рыба, вада мутная ідзе, берагі плюшчом зарастаюць. Каб нехта калісь сказаў, што на старасць сваёй рыбы не будзе, людзі смяяліся б. Раней, бывала, дзеці кошыкамі яе лавілі, — наракаюць у Канюках.

— A jeszcze piszą, że ślimak kroczy. Też wszystko zżera, — падхапіў тэму адпачываючы ў вёсцы беластачанін. — Załóżmy, że ktoś specjalnie przywlecze taką walizeczkę i puści po Kaniukach.

* * *

У прынарвянскіх вёсках сядзяць на лавачках пенсіянеры. Толькі дзе-нідзе абсеяныя палеткі. Канец ліпеня. Невыносная гарачыня.

**Ганна Кандрацюк**

-------------

*** стонка** — каларадскі жук, бура-жоўты з чорнымі палоскамі шкоднік, аб'ядае лісце бульбы.

**** накідзь** — канюцкі вар'янт слова *пошасць*.

# Песня пайшла ў народ

Адной прыгожай ліпеньскай нядзеляй, пад вечар, выцягнуў нас сын на марозіва. Было ўжо пазнавата, большасць крамаў пазамыкалі, давялося ісці ў цэнтр Бельска. Нічога, кажам з жонкай, нават прыемна — сямейны шпацыр нядзельным надвячоркам.

Сын з жонкай пайшлі ў краму выбіраць ласункі, а я — не люблю салодкага і халоднага — з дачкою (замаладая) засталіся чакаць іх на тратуары. З рэстарана „Падлясянка", які знаходзіўся якраз насупраць, даходзіла прыемная, жвавая музыка. Ах так, чую, людзі гуляюць пад знаёмую „Чараўніцу":

*Ты ж мяне, ты ж мяне над крыніцаю*
*Называў, называў чараўніцаю...*

Аркестр скончыў граць і пачулася: „Zapraszamy wszystkich gości weselnych do wspólnej zabawy". Тут музыканты ўрэзалі яшчэ больш знаёмае:

*Аксамітны летні вечар*
*ахінуў зямлю,*
*Я вазёрную сінечу*
*вуснамі лаўлю.*

Не ведаю, ці ўжо паспелі ўсе госці паўставаць ад цяжкіх сталоў і заварушыць нагамі ў рытм музыкі, калі аркестр грымнуў:

*Мне краёў чужых не трэба,*
*Як не варажы.*
*Не хачу чужога неба,*
*Радасцяў чужых!*

Божа мой, ад раптоўнага ўзрушання аж павільгатнелі вочы. ЗБМаўцам і ўсяму іхняму пакаленню паясняю, што аўтарам гэтай песні з'яўляецца Сяржук Сокалаў-Воюш, якога мы — сённяшнія мастадонты, а ў 80-х БАСаўцы — на першым „Басовішчы" ў 1990 годзе гатовы былі насіць на руках. А гэтую песню спявалі амаль стоячы на зважай і канчалі воклічам „Жыве Беларусь!"

Не ведаю, ці наступны танец быў пад музыку „У гушчарах затканых імглою", бо з крамы выйшлі мае сямейнікі. Але, здаецца мне, даскналым заканчэннем вяселля была б калыханка: „Люблю наш край, старонку гэту..."

**М. В.**

*Новыя вершы*

* * *

Я сябе так не шкадую,
Як цябе,
І цябе я не ўратую,
Як нікога,
Як сябе.
Чыста роўная дарога.
Нікога
На ёй.
Ні мяне адной,
Нічога.
Выйшлі ўжо з Садома госці.
Не пайшла я з імі,
Хоць за рукі
Бралі,
Звалі,
Давалі ратунак ад мукі.
Рвецца сэрца, сохнуць косці,
Вочы плачуць дымам.
Сын народжаны не намі
Распяты
Пад дубам.
Над счарнелымі лугамі
Каня кліча цуду.
Вар'ятка.

**Міра Лукша**

# Мафія? Мафія!

Перад святам Пятра і Паўла, 11 ліпеня 1995 г. а 16.30 пераважу я вось такі, сёння нікога ўжо не здзіўляючы, выпадак. Вельмі многа гавораць ён аб злодзеі, які, бягучы вуліцай, крычаў: „Лаві злодзея!"

Калі я набліжаўся да аўтобуснага прыпынку, непадалёк бензакалонкі ў напрамку да горада на вул. Кавалерыйскай, убачыў жанчыну, якая бегла і галасіла: „Помогите, помогите!", а перад ёю шмыгала некалькі хлопцаў. Гэта выглядала так, як бы адзін аднаго даганяў. Беглі яны ў напрамку баракаў, дзе жывуць цыганы. Людзі ішлі тратуарам і толькі глядзелі на пагоню. Ніхто, нават з ліку маладых, не хацеў, або баяўся памагчы беднай жанчыне.

Я зацікавіўся яе лёсам і пайшоў у гэтыя баракі. Я ніколі не ведаў, што іх там аж столькі. Калі я даходзіў да групы цыганоў, якія стаялі і сядзелі ля крайняга барака, убачыў тую ж пакрыўджаную жанчыну, якая, з плачам, ледзь жывая ад бегу, таксама даходзіла да групы. Прысела, плача ды задыхаецца. Я падняў яе і запытаў, што ёй забралі. А яна кажа: „Пусть пропадают деньги, но что я сделаю без паспорта и билета на самолет на 12 июля?!" І зноў залілася слязамі. Я пачаў гучна выказваць сваю думку, падпіраючы яе аргументамі чалавечнасці і сумлення ў няхай сабе і мафіі... Каму патрэбны пашпарт і білет на самалёт недзе ў Расію на чужое прозвішча? Раптам хлапец гадоў 15—16 нясе пашпарт жанчыны і аддае. Яна далей плача і наракае, што білет прапаў, а я стаю і гавару хлопцу, каб пашукаў білет. Цыганкі і цыганы закрычалі: „Мафія, мафія! Мы самі тут іх баімося!" Хлопец ускочыў на веласіпед і паехаў некалькі метраў за другі барак. Праз хвіліну прыпёр і гаворыць: „Ест білет, але оні хцо двесце долярув за него". А я: „Сконд кобета вэзьме двесце долярув, кеды ё окрадзёно?!"

Тады хлопчык зноў сеў на веласіпед, паехаў і прывёз ёй той білет. Божа, каб вы пабачылі радасць жанчыны! Яна з гэтага ўсяго нават мне не падзякавала за падтрымку, а толькі дзякавала цыганам і благаслaвіла іх. Цыганы глядзелі на мяне коса, а найстарэйшы з іх не вытрываў: „А пан то кто такі, жэбы впердаляць нос в не свое справы?!" А я на тое: „А цук то за словніцтво? Я естэм звычайным чловеком, ктуры хцял помуц беднэй окрадзёнэй". Маладая асілкі гатовы былі мяне „павучыць", але замест таго сцвердзілі: „Пан ма рацые".

Можна было б думаць рознае, не злапаўшы за рукаў, але вось гэты цыган выдаў хто яны пытаннем, куды я пру свой нос.

Я ад гэтага дня нікому з цыганоў не дам граша. У паліцыю не пайду дакладваць, бо гэта можа быць выкарыстана на маю бяду.

Калісьці па радыё пан Станіслаў Станкевіч, прадстаўнік ромаў, на закід слухачоў, што найбольш зладзеяў ёсць сярод цыганоў, сказаў: „Сярод кожнага народу ёсць зладзеі і іншыя падлюгі". Я з ім згодны, але кожны народ з'яўляецца такім, якая ёсць ягоная большасць.

**Васіль Петручук**

# САНІТАРЫ ЭКАНОМІКІ

*Працяг са стар. 1*

СССР, трэба плаціць. Мы абнаўляем экономіку". Ну і ў сапраўднасці абнаўляюць — польскую. Ёсць такія рэкецёры, што зарабіў грошы і тут жа іх прапіў ці прагуляў. Або купляюць тут машыны і гойсаюць на іх сюды-туды. То санітары экономікі польскай дзяржавы, яны не дазваляюць вывозіць адсюль валюту.

*— Абіраюць так проста на базары?*

— Наогул не, на базары заўсёды шмат паліцэйскіх і розных шпікоў. І на вакзалах таксама не. Калі там крадуць, то ўжо звычайныя бандыты. Вакол вакзала, гэта так. Як і вакол базару. А таксама каля вялікіх магазінаў, дзе *рускія* робяць пакупкі, каля гатэляў. Ты можаш лёгка спрактыкавацца. Надзень нейкую такую паднішчаную вопратку, вазьмі на каляску вялізную паласатую торбу і прайдзіся па Ліповай у Беластоку. Гарантую, што прывітае цябе рэкет.

*— Ці такі шпацыр напэўна бяспечны?*

— Ну, ты потым можаш паказаць пашпарт ці проста вытлумачыць па-польску, што ты журналіст і збіраеш матэрыял, але ніколі невядома, як такі жарт будзе сустрэты. У мінулым годзе, пасля інцыдэнта на Усходнім вакзале паехаў я ў Варшаву. Спецыяльна надзеў футравую шапку і тут жа каля вакзала сустракаюць мяне трох, чыста, культурна адзетых: „Здравствуйте, вас приветствует варшавский рекет. Здесь нашая территория, надо платить". Раз *приветствуют*, сапраўды *надо* плаціць. Але я да іх па-польску, панове, тое-шмое. Яны былі, відаць, маласпрактыкаваныя, не пазналі майго акцэнту, адчапіліся.

Ёсць таксама рэкецёры, якія працуюць у цягніках ці аўтобусах. Бяруць свой налог, пасля мытнікаў. Магу расказаць прыкладную гісторыю. Затрымліваюць аўтобус пад Белай-Падляскай, заходзіць усярэдзіну чалавек з калашнікавым...

*— Адкуль калашнікаў?*

— На польскіх базарах усё ёсць, не толькі зброя, але і форменная вопратка польскага паліцэйскага і савецкага генерала. Давай, аднак, я дакончу. Ну і гэты чалавек скіроўвае аўтобус на бакавую дарогу, у лес. Яго памагатыя спускаюць паветра, а ён заяўляе: „Праз паўгадзіны вернемся, да таго часу збярыце па 50 доляраў з кожнага. Калі гэтага не будзе, то наробім такой бяды!" І выходзіць. Кіраўнік групы кажа: „Людзі добрыя, трэба плаціць, бо то рэкет, бандыты". І тут раптам з кустоў, ні дай ні вазьмі, выходзіць польскі паліцэйскі. Напалоханыя людзі кідаюцца да яго: „Ратуйце!" Той вымае рацыю, штосьці гаворыць у яе. Потым вымае нейкую ручку і кажа: „Здавайце сюды гэтыя долары, вось я іх пазначу. Мы гэтых рэкецёраў зараз цапнем, а пазначаныя грошы будуць доказам". Бярэ грошы і зноў прападае, як і з'явіўся, у кустах. Праз дзесяць хвілін вяртаецца рэкет і кажа ўсім *спасибо*. Ніхто не пабіты, грошы здадзены, кожны едзе ў свой бок.

*— Ці ў Польшчы існуе арганізаваная мафія?*

— Мне пра гэта нічога невядома. Хутчэй за ўсё не. Пакольні мне вядома, то кожны выдзяляе сабе тэрыторыю — хто першы, той лепшы — і так сабе зарабляюць. Мафія, гэта больш выдумка прэсы, чымсьці рэальнасць. Тым не менш бываюць час ад часу крывавыя расправы між бандытамі. Гэта, як я ўжо сказаў, нічога супольнага з класічным рэкетам не мае. Але не ўсё праходзіць так гладка, як з гэтым аўтобусам.

**З былым рэкецёрам гутарыў**
**Мікола Ваўранюк**

# Дзень Незалежнасці?!

27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб'явіў суверэнітэт краіны, а год пасля, у жніўні 1991 г., незалежнасць і памяняў яе назву на Рэспубліку Беларусь. Са складу СССР раней выступілі Расія, Украіна і шмат іншых рэспублік, тады і не было ніякага сэнсу, каб Савецкі Саюз замыкаўся толькі ў межах Беларусі. Нават артадаксійныя беларускія камуністы пад уплывам ціску вонкавых палітычных абставін галасавалі за незалежнасць. Толькі адзін народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка быў за тым, каб Савецкі Саюз існаваў, хаця б абмежаваны да тэрыторыі Беларусі.

Неўзабаве дзень 27 ліпеня быўназначаны беларускімі камуністамі нацыянальным і дзяржаўным святам. І, праўду кажучы, было што святкаваць, бо ўпершыню Беларусь стала фармальна незалежнай дзяржавай прызнанай усімі краінамі свету. Новы старшыня Вярхоўнага Савета прафесар Станіслаў Шушкевіч усприймаўся ў еўрапейскіх салонах як паважаны госць і галава сапраўды незалежнай дзяржавы. Рэспубліка Беларусь, дзякуючы намаганням апазіцыі ад Беларускага народнага фронту, атрымала таксама нацыянальную беларускую сімволіку — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг. Здавалася, што сталінскія сімвалы астануцца ўжо толькі ў падручніках гісторыі і асацыявацца будуць з канцлагерамі, расстрэламі сотняў тысяч невінаватых людзей, Курапатамі і ўсялякімі іншымі зверствамі.

Апошнія чатыры гады 27 ліпеня адзначалася галоўным чынам дзяржаўнымі структурамі, хаця варожа да гэтай незалежнасці не ставілася ніводная партыя, ні патрыятычная арганізацыя. Патрыёты на тэрыторыі рэспублікі і асабліва беларусы ў дыяспары Дзень Незалежнасці традыцыйна адзначалі 25 сакавіка ў гонар падзей 1918 года. Тое, што было пасля падпісання рыжскага трактата лагічна асацыявалася ўсім свядомым беларусам з акупацыяй. Акупанты мяняліся, але ў канцы серп, молат і чырвоная зорка запанавалі над цэлай Беларуссю і над душамі і сэрцамі яе жыхароў.

Як бы не глядзець, але 27 ліпеня дало пачатак працэсу, які мог бы паўстрымаць духоўнае і маральнае знішчэнне народа; дзяржаўнасць — фармальна незалежная — ужо існавала. Таму нават найбольш радыкальныя антыкамуністы не аспрэчвалі сэнсу гэтага святкавання.

Усё змянілася пасля лукашэнкаўскага рэферэндуму. Святкаваць незалежнасць у такіх умовах стала ўжо гратэскам, а адначасова праявай крывадушнасці з боку пануючай расейскай групы, якая прыдавіла тую ж незалежнасць. На дзяржаўныя будынкі вярнуліся старыя сталінскія сімвалы. З'явіліся яны і на будынках дыпламатычных прадстаўніцтваў за межамі Беларусі.

Сёлета святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі ладзіла Генеральнае консульства ў Беластоку. У мінулых гадах арганізавала яго пасольства ў Варшаве. Запрашэнне на сустрэчу „з нагоды Нацыянальнага свята Беларусі і пачатку працы Генеральнага консула Міхаіла Слямнёва" было упрыгожанае новым гербам — вянком з каласкоў, кветак, зоркі і стужак. Некаторыя беларускія дзеячы, атрымаўшы такія запрашэнні, пачуліся звычайна абражанымі. Іншыя, з увагі на пашану для консулаў Міхаіла Слямнёва і Ігара Хадасевіча, вырашылі прыняць удзел у сустрэчы. Былі такія, што не мелі ніякіх сумненняў адносна гэтага святкавання. Напэўна не мела іх беластоцкая паліцыйна-вайскова-ўрадніцкая эліта, якая атрымала рэдкую нагоду паправіць свае элітарнае самаадчуванне.

У Менску да святкавання 27 ліпеня ў гэтым годзе заклікаў апазіцыйны Беларускі народны фронт, але пад знакам Пагоні і бел-чырвона-белымі сцягамі.

Традыцыйна ўжо, лозунг „Незалежнасць" выклікаў там нервовыя рэакцыі з боку ўлад (глядзі артыкул побач). З'явіўся адначасова чарговы парадокс у гісторыі беларусаў — дэмакраты вымушаны змагацца за сур'ёзнае ўшанаванне дня, аб'яўленага нацыянальным святам Вярхоўным Саветам сацыялістычнай Беларусі.

Святкаванні Дня Незалежнасці пад савецкімі сімваламі заўжды будуць выклікаць сумненні, і пытанні, што для беларусаў абазначае гэтая незалежнасць.

**Яўген Мірановіч**

# Народнае шэсце

Сёлетняе святкаванне пятых угодкаў незалежнасці Беларусі павінна было, на думку адміністрацыйных улад беларускай сталіцы, абмежавацца да прапанаванай імі праграмы. Але з ініцыятывай наладзіць альтэрнатыўныя мерапрыемствы выйшлі таксама дзеячы БНФ і іншых дэмакратычных арганізацый. Сталічныя чыноўнікі толькі часткова задаволілі прашэнне арганізатараў альтэрнатыўных святкаванняў, дазволіўшы ім ладзіць мітынг у Парку Купалы, але рашуча забаранілі шэсце па праспекце Скарыны. Нягледзячы на забарону, пра якую некалькі дзён да свята паведамілі сродкі масавай інфармацыі, дэмакратычныя дзеячы рашыліся выйсці на вуліцу.

27 ліпеня людзі на плошчы Незалежнасці пачалі збірацца каля адзінаццатай гадзіны, аднак трымаць над галавой бел-чырвона-белыя сцягі спачатку пабаяліся. У руках трымалі яны толькі дрэўкі, а палотнішчы мелі схаваныя па сумках і кішэнях. Але знайшлося некалькі адважных чалавек і дзе-нідзе залуналі нацыянальныя флажкі. На згуртаваных на плошчы міліцыянераў падзейнічалі яны як чырвоная плахта на быка. Узброеныя гумавымі дубінкамі ахоўнікі парадку адразу сталі прабівацца да ўзнятых сцягоў. Афіцэр з мегафонам інфармаваў, што шэсце ўладамі забаронена і прапанаваў сабраным перайсці ў Парк Купалы, дзе тыя ж улады дазволілі БНФу правесці мітынг і канцэрт. Людзі рэагавалі абурэннем і непрыязнымі воклічамі.

Спачатку міліцыянеры вылавілі з натоўпу Віктара Івашкевіча — аднаго з арганізатараў шэсця, з якім напярэдадні вяліся папераджальныя размовы аб магчымых паслядоўнасцях правядзення несанкцыянаванага мерапрыемства. Яму надзелі наручнікі, увапхнулі ў машыну і вывезлі на ўчастак.

Людзей на плошчы прыбывала. З натоўпу вылучаўся гурт людзей, над якім красаваліся бел-чырвона-белыя палотнішчы. Да гэтай грамады кінуліся амонаўцы, якія пачалі адціскаць людзей на прахадны двор. Тады абурыліся ўсе астатнія і сцягі сталі ўздымацца па ўсім натоўпе. Спачатку іх з'явілася некалькі дзесяткаў, потым сотні. Міліцыянеры прыстанавіліся. Агулам міліцыяй было затрымана і аштрафавана з дзесятак чалавек, а двое атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Шэсце пачалося ў дванаццаць гадзін. Уздоўж шляху, якім ішлі дэманстранты, былі відаць дзесяткі грузавікоў з закратаванымі вокнамі — машыны былі набітыя вайскоўцамі са спецназу. У галаве калоны ішлі Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык, Валянцін Голубеў, Сяргей Антончык. У пачатку шэсця на плошчы Незалежнасці маніфестантаў было малавата — чалавек пяцьсот. Але паступова на праспекце Скарыны да іх далучаліся новыя і новыя людзі. Многія ішлі з дзецьмі, трымаючы ў руках нацыянальныя сцяжкі і спяваючы народныя песні. Над праспектам раз-пораз чуўся вокліч „Жыве Беларусь!" Калона, якая па дарозе вырасла на некалькі тысяч чалавек, паступова заполніла плошчу перад помнікам Янку Купалу, дзе адбыўся мітынг і канцэрт. Падчас шэсця міліцыя паводзіла сябе даволі карэктна, абмяжоўваючыся заклікамі захоўваць правілы дарожнага руху. Наогул невялікае, маляўнічае шэсце стала сведчаннем таго, што нягледзячы на забарону, рызыкуючы, многія людзі шануюць нацыянальныя сімвалы і гатовы актыўна выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю.

А вечарам аб несанкцыянаваным шэсці паведамілі тэлекампаніі. Тэлеканал „Расія" поўнасцю і аб'ектыўна паінфамаваў аб гэтым альтэрнатыўным мерапрыемстве, у адрозненне ад „Астанкіна", якое засяродзілася выключна на афіцыйнай праграме святкаванняў. Не абышло маўчаннем шэсця і Беларускае тэлебачанне, якое ў галоўным выпуску „Навінаў" паказала відэасюжэт з маніфестацыі, старанна дабіраючы словы каментарыя і не навешваючы ярлыкоў на арганізатараў дэманстрацыі.

**На аснове паведамленняў СМІ апрацаваў** ***Віталь Луба***

# ЗАБЛЫТАНЫ СЭНС СУВЕРЭННАСЦІ

**Слова ВАСІЛЯ БЫКАВА з нагоды Дня Незалежнасці**

Невясёлыя думкі прыходзяць у галаву калі ўсвядоміць сабе тое, што ў палітычным лексіконе нашага ўсходняга суседа словы *суверэннасць, незалежнасць, самастойнасць* набылі негатыўнае, амаль знішчальнае адценне, а між тым яшчэ нядаўна яны мелі іншы, паважаны, нават сакральны сэнс і не знікалі са старонак бальшавіцкай прэсы. Праўда, тады яны тычыліся да народаў далёкіх краін, якія вялі самастойную, самааддануб барацьбу супраць каланіяльных заваёўнікаў. Іншая справа цяпер, калі той самай свабоды і незалежнасці захацелі народы ўласнай савецкай імперыі. Шмат якія з ліку цяперашніх расійскіх дэмакратаў, не кажучы ўжо пра камуністычна-ленінцаў, паспешліва перакваліфікаваліся ў рэчаісных патрыётаў-дзяржаўнікаў і як за галоўны аргумент тае метамарфозы ўхапіліся за адзін з двух пастулатаў вядомай дэкларацыі — аб непарушнасці тэрыторыяў. Другі ж не меней, а можа і болей важны — аб праве нацыі на самавызначэнне, пакінулі без увагі, нібы яго там і не было ніколі. Мабыць, з наблізкіх часоў вядома, што галоўныяісціны людскога існавання — простыя і зразумелыя як хлеб і вада, жыццё і смерць. Гэта кніжнікі і фарысеі прывыклі ўскладняць і заблытваць іх дзеля ўласнай карысці. Старанна заблытваецца цяпер і элементарны сэнс суверэннасці і незалежнасці. Нядаўнія памкненні нацый і народаў да вызвалення ад шматгадовай імперскай залежнасці адбыліся не з прычыны якога-небудзь недагляду ці чыёйсь злой волі, як гэта нам тлумачаць імперскія апалагеты, а на падставе сумнага шматвяковага вопыту паднявольнага існавання ў складзе вядомай імперыі.

У Белавежы быў удана скарыстаны рэдкі момант, які нячаста здараецца ў гісторыі імперыі. І гэтая імперыя рухнула, без крыві і вялікіх выпрабаванняў, без жахаў унутранай грамадзянскай вайны, нібы ў казцы са шчаслівым канцом. Здаецца, ужо гэтая акалічнасць павінна выклікаць задавальненне ўсіх, у тым ліку і расійцаў, якія нарэшце вызваліліся ад прыкрай патрэбы, як яны кажуць, карміць і развіваць няўдзячныя, маларазвітыя нацыі. Задавальнення аднак не атрымалася. Шматабяцаючая падзея прынесла ці не цалкам негатыўны вынік і, бадай, усе яе ўдзельнікі плачуць цяпер горкімі слязьмі. Але чаму так? Ці не ў выніку ўсё той жа раптоўнасці, нечаканасці, паспешлівасці, якія прыйшлі ў галовы кіраўнікоў трох братніх рэспублік, але пакінулі абыякавымі іхнія народы? На самай справе, штосьці ў Белавежы было не ўлічана, штосьці зроблена не так, як належала. Семдзесят гадоў нявольніцкага існавання ў рэжыме сацыялістычнай казармы ўшчэнт здэфармавалі масавую свядомасць, выпрацавалі адмысловую людскую ментальнасць сацыяльных утрыманцаў, якія бязвольна чакаюць усё неабходнае для жыцця, і для шчасця таксама, калі не ад Бога, дык ад начальства, ЦК, Саўміна, дырэктара. Зноў у жыцці можна не ўлічваць спантанны, а то і добраарганізаваны сабатаж камуністычнага авангарду, ці як цяпер кажуць, наменклатуры, які хутка акрыяўшы пасля путчаўскага спалоху, уцяміў, што палявання на ведзьму не будзе, а прыхватызатарская эканоміка нават не горш за партнаменклатурную прывілеяванасць. Спалох ад путчу на Беларусі стаўся можа нават мацнейшы, чым дзе яшчэ, бо ў нас з нядаўняга часу непрадказальным страшыдлам замаячылі Курапаты. Але ён і мінуўся хутчэй, калі аказалася, што БНФ марна палохае люстрацыяй, на якую ў яго не хопіць высілку, бо ўся кадэбісцкая картатэка прадбачліва адпраўлена на Лубянку. Гэтая акалічнасць і вызначыла палітычны выбар беларускага кіраўніцтва: не Захад, а Усход.

Самая вялікая пагроза суверэнізацыі мінула, нават не прагрымеўшы над Беларуссю. Малаважна, што эканоміка неўзабаве апынулася ў руінах, на труху пераўтварыліся „зайчыкі", палітыка рэформаў сканала ледзьве пачаўшыся. Затое спосабам шокавага рэферэндуму, падхітраванскага вырбарчага закону з палітычнай арэны была адхілена апазіцыя, а перад тым з'явіўся ўсенародна абраны прэзідэнт з яго загадкавай, фантомнай ідэяй славянскага саюза — як „Славянскага базару" ці „Славянскага сабору". Малаважна, што пра тую шалёную ідэю няма пэўнага ўяўлення ў асноўнай масы славянства, якое дагэтуль ніяк не выхарка з крывёй папярэдняю камуністычную ідэю. Затое хапае энтузіязму ў яе ініцыятара. Ну, а суверэннасць і незалежнасць дзе? Яе збольшага ўспамінаюць у масах як недарэчны казус, што здарыўся па віне трох белавежскіх зуброў, і патрабуюць трыбуналу над імі. Пасля нядаўніх недарэчных выбараў пра дэмакратаў ужо не гавораць; здаецца, у Беларусі іх ужо перасталі і заўважаць. З дапамогай АМОНу ліквідавана не толькі парламенцкая апазіцыя, але і сам недалужны парламент, замест якога ў краіне дзейнічае нечуваны дагэтуль наватвор — прэзідэнцкая вертыкаль. Эканоміка паралізаваная, курс на доўгачаканую інтэграцыю з Расіяй завісае ў паветры. Яно і вядома: каму патрэбна сястра жабрачка, нават калі яна гатовая да паслуг і просіць на пастой і пракорм чужое войска? Але дзе гарантыя таго, што тое войска сапраўды будзе накормлена? Зноў жа вучоныя прафесары не перастаюць пераконваць, што поўнага суверэнітэту не бывае, што незалежнасць — справа жахлівага ЦРУ, агенты якога кішаць у краіне. Праўда, выкарчаваць тых агентаў, мабыць, нялёгкая справа, затое ва ўсіх на вачах фінансавая дзейнасць Фонду Сораса. Але як трапна заўважыла нядаўна Радыё „Свабода", навошта нам амерыканскія мільёны, калі іх немагчыма ўкрасці. Значыцца, вон з Беларусі пан Сорас, якому тут як апаратыга быў створаны рэжым найбольшага несприяння.

Замкнуты рот дэмакратычнай прэсе, развалена навука, аганізуе нацыянальная культура. Менскія ўлады забараняюць народнае шэсце з выпадку Дня Незалежнасці. Затое танцуе і спявае ў Віцебску касмапалітычны „Славянскі базар" і свінцовай хваляй вылiваецца аўтарытарная дыктатура, з чым і віншую Беларусь у сумны дзень сваёй незалежнасці.

**Ад рэдакцыі:** *Гэты тэкст прагучаў 27 ліпеня па Радыё „Свабода". Першапачаткова мела яго надрукаваць газета „Аргументы і факты", але ў апошні момант быў ён зняты з нумара. Загаловак паходзіць ад нашай рэдакцыі.*

## Балканскі кацёл

Чацвёрты год ужо трывае югаслаўская вайна, якой сэнсу так у сапраўднасці ніхто ў свеце не разумее. Мала праўдападобна ці славянскія плямёны, якія там вырэзваюцца, ведаюць яшчэ за што змагаюцца, ці не адзіным рухавіком тае невыгасаючай разні не з'яўляецца ўжо звычайная нянавісць, так характэрная для ўсіх рэлігійных канфліктаў. Вядома, што вобраз югаслаўскай вайны паказаны ў польскім тэлебачанні няшмат мае супольнага з рэчаіснасцю і так сапраўды невядома, з якой мэтай паказваецца палякам нейкі палітычны гратэск упрыгожаны хлуслівымі каментарыямі. Прытым тэрміналогія каментарыяў ёсць больш-менш такая, быццам бы на другім баку лініі фронту насупраць сербаў сядзелі ў акопах хлопцы з Варшавы, Кракава, Элка ці Кашаліна. Нейкай рацыянальнасці немагчыма ў гэтым дашукацца.

Калі 1 снежня 1918 г. узнікла Каралеўства Сербаў, Харватаў і Славенцаў усе югаслаўскія народы лічылі, што гэта канец іх палітычнага кашмару, братазабойчых войнаў, выкарыстоўвання іх рознымі імперыямі. Упершыню ўзнікла федэрацыя паўднёвых славян, аб'яднаных у адной дзяржаве. Працэс гэты ў поўным сэнсе быў вынікам трагічнага вопыту гэтых народаў падчас І сусветнай вайны. Сербія патраціла тады звыш 40 працэнтаў сваіх мужчын, а ўсе югаслаўскія народы — амаль 2 мільёны сваіх жыхароў. У межах Югаслаўскага Каралеўства апынуліся народы, якія 4 гады змагаліся супраць сябе. Харваты і славенцы служылі ў аўстрыйскай арміі. Сербія як самастойная дзяржава была саюзнікам Расіі, Францыі і Англіі. Сербы мелі вялікую традыцыю змагання за сваю свабоду. Сотні гадоў прабавалі іх знішчыць фізічна і маральна туркі, пасля імкнуліся падпарадкаваць іх сабе Габсбургі. Ад XVIII стагоддзя заўсёды маглі таксама лічыць на падтрымку Расіі. Турэцкая акупацыя прывяла аднак частку сербаў да мусульманскага веравызнання. Асабліва мусульманскай сталася Боснія. Каталіцкія харваты некалькі стагоддзяў жылі ў аўстрыйскай імперыі і мелі зусім іншыя традыцыі і вопыт, чым сербы. Югаслаўскія народы спалучала мова і культура, раздзяляла веравызнанне, гістарычная і палітычная спадчына. Таму побач імкнення да інтэргацыі ад самага пачатку існавання дзяржавы моцная была сепаратысцкая плынь, асабліва сярод харватаў.

Прэтэнзіі да паасобных кавалкаў югаслаўскай дзяржавы праяўлялі італьянцы, венгерцы, балгары.

Ужо ў 1923 г. лідэр найбольшай харвацкай партыі — Харвацкай рэспубліканскай сялянскай партыі Стэпан Радзіч запрапанаваў падзел дзяржавы на тры паўнезалежныя рэспублікі — Харватыю і Славонію, Боснію і Герцагавіну, Сербію, Чарнагорыю і Ваяводзіну. Еднасць супольнай дзяржавы ўратавалі сербскія палітыкі, але варожасці паміж гэтымі народамі немагчыма было пазбегчы. Нават югаслаўскі парламент — Скупшчына — не быў месцам цывілізаванага дыялога паміж сербамі і харватамі. Мардабой не быў там нічым незвычайным. 20 чэрвеня 1928 г. падчас такой бурлівай дыскусіі сербскі пасол Пуніша Рачыц не стрымаў выступленняў харватаў і чатырох з іх проста застрэліў.

Апрача нацыянальнага канфлікту з поўнай вастрынёй выявіўся таксама палітычны. У асноўным дыскусія ішла вакол формы манархіі — парламентарная ці абсалютная. На пачатку трыццатых гадоў перамагла другая канцэпцыя, якая больш адпавялада псіхіцы сербаў. Зрэшты, кароль Югаславіі Аляксандр з сербскай дынастыі Карагеоргіевічаў на практыцы здаўна праводзіў палітыку цэнтралізацыі ўлады, што ў шматнацыянальнай дзяржаве толькі спрыяла канфліктам. Сербы ўспрымаліся харватамі, македонцамі, славенцамі як пануючая нацыя, якая акрэслівала ўмовы палітычнага жыцця ў краіне. Найбольш памяркоўныя харвацкія партыі дамагаліся шырокай аўтаноміі для тэрыторыі, якая ахоплівала 6 таксама тэрыторыю Славеніі і частку Босніі. Імкнуліся такім чынам аб'яднаць усіх каталікоў, якіх аўтаматычна лічылі харватамі. Больш радыкальныя партыі прапанавалі разгледзець магчымасць стварэння федэратыўнай дзяржавы з аўстрыйцамі і венгерцамі. Шавіністы з Харвацкай нацыянальнай арганізацыі Антэ Павеліча вызначылі сабе за мэту стварэнне ўласнай незалежнай дзяржаўнасці. Члены арганізацыі Павеліча называлі сябе паўстанцамі, што ў харвацкай мове гучала „усташы".

9 кастрычніка 1934 г. усташы замардавалі караля Аляксандра падчас яго візіту ў Францыю, паглыбляючы і так варожыя адносіны з сербамі. Забойства Аляксандра не адмяніла ўнутранай сітуацыі Югаславіі. Сярод сербаў як і харватаў штораз большую папулярнасць набывалі нацыяналістычныя плыні. Харвацкія партыі бралі з суседняй Італіі і Нямеччыны не толькі ідэалогію, але таксама ўзоры арганізацыйнага жыцця. Партыйная паліцыя і палітычныя забойствы сталіся пры канцы трыццатых гадоў прыкметай тамашняга палітычнага ладу.

Пасля ліквідацыі Аўстрыі і падзелу Чэхаславакіі харвацкі сепаратызм станавіўся проста дасканалым фактарам у замежнай палітыцы Гітлера на Балканах. Амаль год урад Югаславіі абараняўся перад падпісаннем саюзнага дагавору з Нямеччынай. Раней у нямецкай зоне ўплываў апынуліся такія дзяржавы як Венгрыя, Балгарыя, Румынія, Славакія. Сілай падпарадкаваны былі Албанія і Грэцыя. 25 сакавіка 1941 г. Югаславія прыступіла да пакта Берлін—Рым—Токіо. Дзень пасля афіцэры югаслаўскай арміі правялі ўдалы замах, што абазначала змену палітычнай арыентацыі краіны і адначасова вайну з Нямеччынай. Вайна закончылася на працягу 10 дзён. Харвацкія афіцэры і салдаты масава перайшлі на бок немцаў. Кароль Пётр Карагеоргіевіч і ўрад падаліся на эміграцыю ў Лондан. Каралеўства Югаславіі было падзелена паміж немцаў, італьянцаў, балгараў, венгерцаў і харватаў. Гэтыя апошнія атрымалі ў канцы ўмовы для стварэння „Вялікай Харватыі" ў складзе якой апрача этнічнай харвацкай тэрыторыі апынуліся Боснія і Герцагавіна з сербскім насельніцтвам у большасці. Фюрэрам Незалежнай Харвацкай Дзяржавы стаў лідэр усташаў Антэ Павеліч. Некрытычна прысвоіў ён усе расісцкія ідэі Гітлера і пастаянна рэалізаваў іх на практыцы. Яшчэ трывала вайна, калі Антэ Павеліч выдаў дэкрэт „аб ахове арыйскай крыві". „Сербам, цыганам, яўрэям і сабакам" забаранялася прабываць у парках, рэстаранах, аўтобусах, трамваях. Сербаў усташы не лічылі народам і вырашылі частку іх выселіць па-за сваю дзяржаву, частку прымусіць памяняць веравызнанне на каталіцкае, а частку звычайна вымардаваць. У канцы красавіка 1941 г. пачаліся першыя пагромы, якія трывалі амаль да канца 1943 г. Усташы, выкарыстоўваючы расісцкую ідэалогію і рэлігійны фанатызм, мабілізавалі насельніцтва да разні сербаў. Усташам памагалі баснійскія мусульмане. Харвацкі садызм выклікаў нават перапалох сярод немцаў, якія стварылі Павелічу ўмовы для такой разні. Звыш 600 тысяч сербаў былі замучаны ўсташамі, 200 тысяч прымушаных было памяняць веравызнанне, 300 тысяч было перасеrange.

Спробы абароны суродзічаў збоку сербскіх партызанаў (чэтнікаў), якімі кіраваў палкоўнік Дража Міхайлавіч былі вельмі абмежаваныя з увагі на супрацьдзеянне камуністычнага падполля Іосіфа Броз Ціта. Камуністы згодна з інструкцыямі Сталіна імкнуліся стварыць міжнацыянальны фронт супраць немцаў і кожны, хто праводзіў нейкую ўласную нацыянальную палітыку лічыўся іх ворагам. Падчас вайны аднак іх уплывы ў дзяржаве Павеліча былі невялікія, таму ўсташы мардавалі сербаў амаль зусім бяскарна. Чэтнікі Міхайлавіча былі найчасцей там, дзе і партызаны Ціта. Таму і змаганне паміж гэтымі падпольнымі плынямі ішло поўным махам. Хаця Міхайлавіч прадстаўляў югаслаўскую армію падпарадкаваную эміграцыйнаму ўраду, не меў такой падтрымкі альянтаў, як камуністы. Сталін пераканаў англічан, каб і яны паставілі сваю карту на Ціта. Камуністычная партызанка пры канцы вайны налічвала каля 800 тысяч жаўнераў і амаль самастойна вызваліла Югаславію.

Лідэры ўсташоўскай дзяржавы, карыстаючыся ватыканскімі каналамі, паўцякалі ў Амерыку. Сербскія партызаны з Дражай Міхайлавічам былі асуджаны цітаўскімі ўладамі і найчасцей расстрэльваліся. 17 ліпеня 1945 г. у выніку пастановы г.зв. народнага суда быў расстраляны Міхайлавіч. Хаця камуністычны рэжым прымусіў народы Югаславіі да „інтэрнацыяналістычнай дружбы", аднак памяць акупацыйнага кашмару перадавалася з пакалення ў пакаленне. Страх і недавер ніколі не загінулі. Унукі жывуць страхам сваіх дзядоў. З-пад шкарлупіны хлусні пра дружбу і супрацоўніцтва выпаўзлі сёння там нацыяналістычныя пачвары, якім не былі створаны шанцы развеяцца ў нябыце. У Югаславіі ўсё яшчэ цягнецца ІІ сусветная вайна.

**Яўген Міранові**ч

## Мелі 14, 12 і 10 гадоў

*Успамінае Яўгенія Кясноўская*

Калі прыйшлі немцы, мне было 6 гадоў. Немцы часта арыштоўвалі маму, бо за саветамі маму выбралі дэпутатам, г. зн. солтысам. Да партыі мама не належала, належаў тата.

Калі першы раз арыштавалі маму, то і хутка выпусцілі. Наслаў іх Нос; яго сям'ю саветы вывезлі, ён сам аднак вярнуўся і стараўся адпомсціць тым, хто служыў за саветаў.

Другі раз, было гэта раніцай, мама пайшла да суседкі, каб разам у кагосьці жыта жаць. Суседчын муж сказаў маме, што ў вёсцы немцы і каб яна ўцякала, бо будзе бяда. Схавалася мама на двое сутак. У гэты час забралі тата і завялі за стадолу, каб расстраляць. У паліцыі аднак служыў яго калега з Шымкаў і заступіўся за татам і тату пусцілі. А я ў гэты час сядзела на печы. Немцы ўвайшлі ў хату з вялікім сабакам, паглядзелі, што нікога няма і выйшлі. Я потым пабегла да суседкі, але мяне не ўпусцілі ў хату, бо я — „камуністкі" (так звалі маму) дачка. То я зноў вярнулася дахаты, у якой нікога не было і зноў на печ залезла і сядзела там пакуль не вярнуліся маміны сёстры. Пасля, як тата пусцілі, калега яго сказаў яму прыехаць у Ялоўку, у жандармерыю, каб там усё аформіць. На другі дзень узяў тата масла, яек, мёду і выбраўся ехаць. Уначы прыйшла мама і сказала, што будзе ўцякаць у Германію, каб тут не лапалі. Так адразу сказала. Я стала плакаць і прасіць маму, каб нікуды не ехала. Маміна сястра, Валя, пайшла да солтыса і ён прыйшоў і сказаў, што ўсё аформлена і нічога за тое, што схавалася, не будзе. Раніцай тата запрог каня і паехалі з мамай у жандармерыю ў Ялоўку. Немец спытаў маму, што яна такое зрабіла, што ўцякла. Мама адказала, што яна не хавалася, толькі жыта ў адных жала. І маму адпусцілі. Крыху супакоілася. Потым яшчэ пару разоў маму арыштоўвалі але адпускалі назад. Мама хадзіла і дапамагала партызанам і мяне з сабою брала. Ніхто пра гэта аднак не дазнаўся. Хадзілі на Буды. Там, пад лесам, жыў мамін дваюрадны брат. Мама клала мне нешта на грудзі і пасылала ў лес. Дарогу ў лес я знала. Было там адно такое месца, куды прыходзіў партызан, усё ад мяне забіраў, а мне аддаваў нешта другое. Што там было — не ведаю. Так хадзіла я цэлую вайну. Тата не хадзіў.

Быў адзін савецкі баец. Жыў ён спачатку ў падсолтыса Паляха. Яго забралі ў Ялоўку, каб там служыў у нейкага паліцая. Мама з Багданом Міцькам звялі яго з партызанамі. Ён сам хацеў да іх. Аднойчы вечарам прыйшлі партызаны, а яго не было — не мог прыйсці раней з Ялоўкі. Тады ўзялі тата і Міцьку і пайшлі яму насустрач. Выйшлі паўкіламетра за вёску і ён ужо ішоў. І як пайшоў, то так і астаўся з імі. І ў Цісоўцы падлажыў міну і поезд пусціў у адхон. Сказалі яму найперш немца забіць, але ён адказаў, што за немца выб'юць цэлую Ялоўку. А партызаны то былі нетутэйшыя, адзін толькі адсюль быў, татаў калега з Боўтрык. І забілі падсолтыса Паляха, у якога быў жыў той баец. І зноў Нос заўдаў немцам, хто насіць партызанам есці. Было гэта ў панядзелак, на другі дзень Сёмухі. Прыехалі немцы, атакавалі цэлую вёску, акружылі, каб ніхто не ўцёк. Мама зайшла туды, дзе ляжаў забіты падсолтыс, а яго швагерка сказала, каб мама ўцякала з вёскі. Мама прыйшла дахаты і сказала тату збірацца на чыгунку, вартаваць. Яна павезла іх у Цісоўку. Выехалі за вёску і немец папрасіў дакументы. Ну, сказала мама, няма ўжо мае сястронкі, бо немцы яе заб'юць. Бо каго Габрусь падаў, то ўсіх пабілі. Было там дзве жанчыны з Новае Луплянкі, мая хросная маці Марыся, яе швагерка Галена і яшчэ з аднае хаты маці і трох сыноў: 14, 12 і 10 гадоў мелі яны. А бацька гэтых хлопцаў, Нос, быў у Асвенціме. І была яшчэ ў іх дачка і двое малодшых дзяцей. Адну жанчыну адпусцілі, а тых сямёра вывелі з Луплянкі і пабілі пры дарозе, што ў Навасады. Мама ўжо верталася ў Луплянку і спаткала дзяўчыну, якая і сказала, што ўсіх пабілі. Калі мама прыехала, то ўжо ішлі іх закопваць.

У мае хросная быў хлопчык, Генік, — тры гады яму тады было і быў ён у яе на руках. Немец забраў яго ад яе з рук і занёс на другі падворак і пусціў.

Калі блізіўся фронт, Нос акурат быў у нас на панадворку. Прыйшло двух байцоў і яго забралі. Ён быў у тайзе на работах. Потым вярнуўся, і сям'я вярнулася. А той Генік, калі даведаўся, што Нос вярнуўся, прыехаў, каб адпомсціць за смерць свае маці. Але калі Нос убачыў, што ён едзе, схаваўся. Шукаў яго Генік, але не знайшоў.

Пасля вайны тата запісаўся ў партыю. Я таксама: калі хадзіла ў школу належала да ЗМП, а потым уцягнулася і так засталося.

З першым мужам мела 16 га зямлі. Ён піў, далі яму другую інвалідскую групу, далі рэнту, а зямлю забралі ў 1975 годзе. І так з тае рэнты і жыву. Першы мой муж памёр і я вось ужо 17 гадоў за другім замужам. Трымаем яшчэ карову, каня, свіней. Ветэранскага дадатку не маю, не хадзіла за ім, бо я не такая баявітая, як была мая мама. А цяпер то хто мне ўжо што дасць...

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

**Не кахай мяне**

Ты помніш, Стэфка,
Той стары, самотны млын,
Вады маўклівай побач
Сцішаную плынь?
Ты помніш як мы потым
Пад вечарам ішлі
І пацалункаў дотык
Вечныя былі.

Прыпеў: Не, не, не, не кахай мяне
Не, не, не, не кахай мяне

Хто ведаў, Стэфка,
Што расстацца прыйдзе час,
Кахання жар так рана
У сэрцы тваім згас.
Навошта апраўданне,
Ты волі не шукай,
Навошта нам расстанне
Мяне ты не кахай.

Прыпеў:



*Цалінка Глагоўская з Гданьска.*

### Вершы Віктара Шведа

**Канікулы**

Заняткі скончыліся ў школе,
Канікулы прыйшлі ізноў.
Пасведчанне з вучобы Коля
Прынёс бацькам сваім дамоў.

Хлопцу зрабілася нялоўка:
— Не выкручуся ад бяды.
За двойкі будзе мне лупцоўка
І ўжо канікулы тады.

**Купі мне, мама, чарапаху**

Чуе матуля просьбу Стаха:
— Купі мне, мама, чарапаху.
— Навошта, — запытала маці, —
Чарапаха табе ў хаце?

— Буду ёй, мама, прыглядацца,
Каб потым мог пераканацца,
Ці праўду мне сказаў Сярожа:
„Пяцьсот гадоў яна жыць можа".

**Чаму падкоўваюць коней?**

Паехаў да бабулі ўлетку
Унучак гарадскі, Рыгорка.
Цікаўны незвычайна дзетка
Каня прыкмеціў на падворку.

— Я ведаю, чаму весь людзі
Коням сваім куюць падковы.
У назі холадна не будзе
Зімой нат у мароз суровы.

<u>Легенды, паданні, сказы</u>

## ПРА БЯРОЗУ МІЦКЕВІЧА

Развітваючыся са сваёй каханай Марыляй, Міцкевіч пасадзіў у Туганавіцкім парку, што непадалёку ад возера Свіцязь, бярозу: „Няхай расце на памяць аб тым, што былі часы, калі дзяўчаты выходзілі замуж не па любові". Марыля палівала гэту бярозку слязамі тугі. Дрэва вырасла стромкае. Аднойчы ноччу гэтую бярозу пашчапала маланка.

Дзяўчаты з навакольных вёсак вераць, аднак, што бяроза жыве. І той дзяўчыне, якая знойдзе яе, бяроза прынясе шчасце і сына — паэта.

На Купалле замест таго, каб шукаць кветку папараці, дзяўчаты з навакольных вёсак шукаюць бярозу Міцкевіча.

*(„Бяздоннае багацце")*

## МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ



*Зайчыкі.* Мал. **Паўліны Кендысь**, вучаніцы III класа Пачатковай школы ў Чыжах.

<u>З гісторыі Беларусі</u>

### Ці была на Беларусі татарска-мангольская навала?

На пачатку XIII стагоддзя ва ўсёй Еўропе ўспыхнуў жах. Усе са страхам гаварылі пра мангольскую дзяржаву Чынгісхана. Захапіў ён шмат народаў — народы Сібіры, Паўночнага Кітая, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Малой Азіі, Блізкага Усходу. У гадах 1230—1243 войскі крывавага хана хлынулі на абшары Усходняй і Цэнтральнай Еўропы — рускія і ўкраінскія княствы, спустошылі землі Малой Польшчы, Венгрыі, Маравіі, Чэхіі, Букавіны, Малдовы, Румыніі. Мангольскі хан і яго наследнікі стварылі найбольшую імперыю свету, яны арганізавалі ваенныя паходы ў Егіпет, Паўднёва-Усходнюю Азію, Японію, на востраў Яву.

Беларусь не была паняволена мангола-татарамі. Захаваліся легенды пра пераможныя бітвы нашых продкаў пад Койданавам у 1249 г.

*(працяг будзе)*
*Паводле*
*„100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі"*

## МЕТАГРАМЫ

Каб адгадаць метаграму, трэба адну літару у слове замяніць іншай. У выніку атрымліваецца новае слова. Напрыклад: сом — дом, лом, том.

На „П" — параходы прымаю.
На „Т" — вельмі смачным бываю.

Калі пачнём на „Р" чытаць,
Яна — адна, братоў — аж пяць!
А вось паставім „М" спачатку:
Спячом і булку, і аладку.

Мусіць, кожны назаве,
Што зіхціцца на траве.
Адну літару змяніць,
І на лузе зазвініць.



*Пры вогнішчы многія робяцца задумнымі.*

## Вогнішча

Лета — гэта тая пара, калі любім паліць вогнішчы. І асабліва, калі знаходзімся на канікулах, здалёку ад бурнага гарадскога жыцця. Агонь спадарожнічае чалавеку ад старажытных часоў. Праз вякі нашыя продкі спалучалі яго з культам Сонца.

Агонь заўсёды заваражваў чалавека. Многія, калі на яго глядзяць, робяцца задумнымі і натхнёнымі. Многія адчуваюць патрэбу спяваць песні або танцаваць. Ёсць і такія, што думаюць толькі пра печаныя каўбаскі. Найчасцей аднак усе гэтыя якасці спалучаюцца ў чароўнае гульбішча пры вогнішчы.

З-ка

## Крыжаванка з дзяўчынкай




1) тады ўжо цёмна-цёмна,
2) у вядры, або ў кране,
3) расце на лузе,
4) левае, або правае,
5) перад домам, або ў школе,
6) яна салоная,
7) невялікі магазін, або назва беларускага рок-гурту,
8) яе свята 26 мая.

*У пазначаных палях атрымаецца імя дзяўчынкі.*

Г. К.

# Дзеці з Магілёўшчыны





— Маем тут ужо новых сяброў. Да нас прыбягаюць дзеці з суседніх дамоў і мы разам гуляем. Вучымся польскай мове, спяваем песні. Ужо ўсе ведаюць „Шла дзевэчка до лясэчка". Калі вернемся ў Беларусь, будзем вучыць гэтай песні сваіх знаёмых, — расказвалі дзеці з Магілёўшчыны.

* * *

У інтэрнаце Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Беластоку пражываюць дзеці беларускіх прафсаюзных дзеячаў з Магілёўшчыны. Будуць гасціць тры тыдні. Аж сорак асоб у розным узросце, ад 8 да 14 гадоў.

— Прыехалі яны, каб падыхаць чыстым паветрам. Самая змена месца пражывання вельмі карысная для здароўя, — гаворыць лекар Святлана Пануждаева.

На Магілёўшчыне, іхняй бацькаўшчыне, найбольшае, не толькі ў Еўропе, хімічнае забруджанне паветра. Многія дзеці пераносяць цяжкія хваробы ад чарнобыльскай катастрофы. Многія паміраюць у маладым узросце.

— Усе вельмі цешацца з гэтага кароткага адпачынку, — кажа апякунка групы Тамара Афоніна. — У Беластоку вельмі зычліва нас прымаюць. Адзін дзядзька, калі даведаўся што мы з Беларусі, усім фундаваў марожанае. Вялікім сюрпрызам былі кішэнныя грошы ад шэфа „Салідарнасці", які ўласнаручна ўручыў усім дзеткам па дзвесце тысяч старых злотаў.

— Многія адразу пабеглі накупіць усякіх ласункаў ці бананаў, — дадае прыгожа, па-беларуску апякунка з Беластока пані Геня Громка.

— Дзеці нам вельмі спадабаліся, мілыя, сціплыя, адкрытыя, — заўважаюць польскія арганізатары пані Эля і пан Гжэгаж Астроўскія.

Памятаюць яны нават імёны сваіх маладых гасцей. Для іх пабаўцалі ладзіць усякія конкурсы, гульні, а нават вогнішча.

— Найбольш падабаюцца нам усякія экскурсіі, — прызнаюцца дзеці. — Былі ўжо ў Тыкоціне, аглядалі Беласток, загаралі на пляжы, хадзілі ў заапарк.

Дзеці неўзабаве наведаюць Белавежу, на месцы сустрэнуцца з беластоцкімі дзеячамі БГКТ, уладыкам Савам, пазнаёмяцца з беластоцкімі сем'ямі.

Усе дзеці з цікавасцю прывіталі „Зорку". У Магілёве дагэтуль не чулі яшчэ пра нашу дзіцячую старонку. Узрадаваліся, калі я сказала, што будуць пра іх чытаць дзеці з Бельска, Орлі, Гайнаўкі, Гданьска, а нават Амерыкі.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## Мышка Пік-Пік робіць фрызуру

У мышкі Пік-Пік заўсёды мноства праблемаў.

Калі іх няма, дык яна іх сама знаходзіць.

Вось цяпер — надышла вясна, сонейка прыгравае. А мышка засмучоная. Хочацца ж і ёй сустрэць вясну-красну не абы-як. Бачыць Пік-Пік, што і мама прычоску сабе пышную зрабіла ў цырульні, і тату падстрыглі, і Веранічка пачала коскі, адрослыя за зіму, заплятаць... Нават на Пепіце поўсць больш пышная зрабілася. Круцілася Пік-Пік перад люстэркам, круцілася, разглядаючы сябе з усіх бакоў: як ёсць шэрасць непаглядная! Неадкладна трэба рабіць новую прычоску!

Пабегла мышка да Пепіты з пытаннем, дзе тая „цырульня" і як туды трапіць. Ды расчаравала Пепіта бедную мышку: няма цырульні для мышэй! Вось гора... Прыйдзецца самой старацца...

Узяла мышка мамін часопіс — замежны, каляровы, з рознымі файнымі цёткамі ў прыгожых уборах ды з цудоўнымі фрызурамі. Прыкідвала Пік-Пік усё ўбачанае да сябе: завіўку добра было б зрабіць — ды поўсць жа кароценькая. Падстрыгчы таксама няблага было б — ды ж няма чаго стрыгчы... Хіба налысага... А вось пафарбаваць можна! Вунь і ў тэлевізары ў рэкламе фарбаў для валасоў паказваюць — як была цётка нефарбаваная, дык ніхто на яе і ўвагі не звяртаў... А як пафарбавалася — і дзядзька на „Мерсэдэсе" з'явіўся, і кветкі прывалок... Заплюшчвае мышка вочкі і ўяўляе: вось яна з пафарбаванай поўстачкай выходзіць з норкі, а яе ўжо чакае Мікі-Маўс з марожаным...

Прыбегла мышка да мамы; просіць фарбы для валасоў. А мама адказвае:

— Ты што? Я сабе не магу валасы падфарбаваць — такія гэтыя фарбы дарагія...

Ну, галота! Што з іх возьмеш? Думала мышка, думала — не фарбавацца ж акварэлькай ці гуашшу! І надумала: успомніла, як мама красіла велікодныя яйкі шалупіннем ад цыбулі. Пік-Пік — шусь на кухню, паабдзірала з цыбулі шалупінне, наклала ў каструлю, прычакала, калі тата заварыць сабе гарбату і паставіць астываць, і выліла цэлы кубак кіпеню ў шалупінне. Вада адразу пачала закрашвацца. А Пік-Пік пабегла ў норку, пакуль тата будзе тут высвятляць, хто выпіў яго гарбату...

Ноччу Пік-Пік прыйшла да запаветнай каструлькі з заварaным шалупіннем і сунула ў адвар галаву. Трымала, пакуль не надакучыла. Тады абсушылася маміным ручніком і, задаволеная, пайшла спаць.

Раніцай Пік-Пік выйшла з норкі і прайшлася па кватэры. Дома былі толькі Веранічка і Максімка. Мама корпалася на кухні, а Пепіта ёй дапамагала.

— Максімка! Паглядзі на нашу Пік-Пік! — закрычала Веранічка. — У яе ўся галава разбітая! Яна паміpae! Вой, колькі крыві! Трымай яе — трэба зрабіць перавязку!

Максімка заўсёды быў гатовы каго-небудзь лавіць. Бедная мышка, не разумеючы, чаму такі пярэпалах, кінулася ўцякаць. Але шкадлівыя дзеці загналі яе ў кут, і Веранічка схапіла прыгажуню на рукі:

— Бедная мая мышка! Ты, пэўна, у шоку, калі так уцякаеш! Што з табой здарылася? Хто табе галаву разбіў?

Але мышка не адказвала, адно верашчала і выкручвалася, тым болей, што Максімка тузаў яе знізу за хвост. Веранічка пабегла да мамы, раіцца, што рабіць — хіба „хуткую" выклікаць...

На мышчына шчасце, мама і Пепіта ўсё-ткі скемілі, што да чаго, бо помнілі роспыты мышкі пра фарбу для валасоў і толькі што вылілі з кастулькі адвар шалупіння...

— Ну вось, нарэшце вы можаце ацаніць маю новую фрызуру... — прабурчэла Пік-Пік. Але няўдзячныя гледачы чамусьці смяяліся, а Веранічка радасна заявіла, што цяпер яны кожны дзень змогуць іграць у бальніцу, дзе мышка з вечна акрываўленай галавой будзе пастаянным пацыентам.

Пік-Пік палічыла за лепшае схавацца ў норку. І сядзела там з горыччу на душы: бо толькі цяпер да яе „дайшло", што фарбу ад шалупіння цыбулі адмыць удасца вельмі няхутка...

**Людміла Рублеўская**

# Хто забіў Зіну М.?

— Думаю, што можа і не варта пра гэта пісаць цяпер, тым больш кранаць гэту справу, — кажа сп. Міхал Б. (імя зменена). — Гэта ж прайшло ад таго дня роўна паўвеку. Нават цяпер не пакараюць таго чалавека, які гэта зрабіў, забіў Зіну М. у Беластоку, на вул. Ліпавай, у сорак пятым. Хто яго ведае, можа і не жыве ўжо ён, не хачу пра гэта гаварыць. Калі жыве, яму, можа, за дзевяноста будзе. Ну, што можна даць за забойства ў белы дзень? Смяротнае пакаранне? Пажыццёва?.. Ужо *срок* прайшоў, а для таго, хто страляў, тады не магло яго быць. Ніхто цяпер не будзе шукаць віноўных. Пасля дваццаці гадоў ужо не кранаюць віноўнікаў, хто цяпер што дакажа, а тады ўсё замялі. Ужо нават памяць не жыве, не гаворачы пра шмат якіх людзей. А паперы? Думаеш знойдзеш нешта ў архівах паліцыі? Пра тое, што Зіну М. знайшлі, але пра забойцаў — толькі тое, што „невядомыя". І тады не было каму шукаць справядлівасці, тым горш цяпер. Са сваякоў Зіны М. таксама ў жывых лічаныя асталіся, цяпер старэчы сляпыя ды глухія. Здымак Зіны можа дзе ў каго валяецца, але для нікога з праўнукаў ці ўнукаў яе сваякоў гэты твар ужо не ёсць знаёмым. Чужы твар незнаёмай прыгажуні. І цяпер, пэўна, не трэба справу кранаць. Я ўжо думаю цяпер, што непатрэбна вас турбаваў.

— Ці і мне пагражае з гэтай прычыны нейкая небяспека, як у той час, калі паклала галаву Зіна „Раманаўская"? Хіба ж у той бок не паляцець смертаносная куля, калі буду ісці па цэнтры Беластока?

— Ну, не думаю. Тыя, хто страляў у Зіну, ружжа хіба цяпер не носяць.

— А тады — адкуль яно ў іх было?

— У каго ружжо, у таго і ўлада. І наадварот.

— Вайскоўцы?

— Не. З лесу нядаўна выйшлі. Уладу самі здабылі.

— Партызаны? Нашыя людзі?

— Партызаны? Так сказаць...

— Скажыце, быў той чалавек партызанам, ці не? Хіба ж сёння можна сказаць ясна? Ці зноў баіцеся?

— А што яны могуць мне сёння зрабіць? Я сваё аджыў, мне ўжо 89 гадоў. Ну, калі ў іх *бронь* была, то ж у іх было хіба права яе насіць. Не? Гэта ж было пасля вайны... Ну, у розных ружжо было... Партызаны... Ведаю я іх, тых **партызан**! Нарабілася іх цяпер столькі, што нават з тых, хто цяпер яшчэ ў жывых, тады можна было б сфармаваць армію! І ў кожнага папяровы ёсць, дзе біўся, з кім супрацоўнічаў. Мы ўсіх ведаем у твар, усіх, хто ў сапраўднасці партызанам быў, а хто прыходзіў ды браў усё як сваё або ўвогуле не меў нічога супольнага з лесам. Мы, старыя, ведаем усё-ўсюнютка, і тады, у сорак чацвёртым ды пятым.

— Зіна М. таксама ведала, так? Але не маўчала? Колькі ёй было б сёння гадоў?

— Не думаю, што пра нешта распавядала. Хацела спакойна жыць, як усе. Было б ёй дзевяноста цяпер. Не была дурная, чаго ёй было вылазіць. Час не быў больш бяспечны, чым у вайну. Хоць з „забітай" вёскі, умела закруціцца і ў горадзе. Вельмі прыгожая. Шыкоўная. Шалелі за ёю нямецкія афіцэры, і гэта выкарыстоўвала. Нямала карысці мелі з яе партызаны.

— Небяспечна весці падвойнае жыццё.

— Жыццё на мяжы смерці і ганьбы.



— Ганьбы?

— А як бачылі яе „нашыя"? Гэта ж праўду ведалі толькі яе шэфы. Гэта ж канспірацыя. Маладая, незвычайна прыгожая жанчына, удава, заўсёды шыкоўна і ў дарагое апранутая. Возяць яе машынай. Так сказаць, досыць лёгкіх паводзін. Здрадніца, з фашыстамі цягаецца. Такая дурачка для кампаніі. Інтэлігентная, начытаная, а дурнянькую смешку ўдаваць трэба, каб нічога ніхто не падазраваў. „Фашысцкая сцерва", — казалі людзі. А колькі ўсяго дайшло да нашых дзякуючы яе адвазе? Вядома, чым гэта пагражала. Смерць на месцы або пакуты ў канцлагеры. Мала загінула тых, хто ўлез у львіную пашчу?

— Але не „леў" яе забіў. Ганебная смерць чакала Зіну ў мірны час. Ведаеце, хто *ліквідаваў* яе?

— Жыве чалавек, які быў прысутны пры забойстве Зіны „Раманаўскай". Сядзеў у машыне з Х., які ў яе страляў. Ехалі па вуліцы Ліпавай у Беластоку, на тратуары мноства пешаходаў. Усе рады, што ўрэшце фашыста прагналі з Еўропы, што можна будзе жыць як людзі... Зіна М. ішла ў капялюшыку. Як заўсёды элегантная...

— Шмат людзей, значыць, гэта бачыла?

— Вядома, але лепш часам не бачыць. І той, хто трымаў у руках рэвальвер, сказаў да Y.Z.: „Давай заб'ем гэтую сволач, гэтую фашысцкую б... Такія сцервы не павінны хадзіць па зямлі". І стрэліў Зіне ў галаву...

— Адкуль вы гэта ведаеце?

— Жыве Y.Z. у вёсцы Г. Запытайце ў яго. Стары ўжо, як і я, пэўна, скажа, што цяпер нічога не памятае. Вось ён сядзеў побач Х. Думаю, што Y.Z. не ведаў нічога пра дзейнасць Зінаіды М., але больш мог бы сказаць пра тое, што рабіў у час вайны і пасля яе пан Х. Але калі б рушыць справы Х., то шмат галоў паляцела б не толькі ў ваяводстве. Такая гісторыя. А так заўсёды ляцяць галовы шэраньких, як Зіна М. Ну, можа не такі сёння час, як тады... Але і вы не завельмі ўлазьце ў такую палітыку. Сабе можна зашкодзіць, знаёмым, раздзерці даўно загоеныя раны...

— Жыццё таксама можна страціць?..

— А хто яго ведае! Той, хто меў у руках ружжо, ніколі ў сапраўднасці яго не пакладзе. Заўсёды будзе хацець завесці сваю „праўду" і „справядлівасць" такім спосабам. А той, хто верыць, што заўсёды Праўда і Справядлівасць возьмуць верх, той наіўны, як Зіна „Раманаўская"...

— Скажыце мне: вы верыце ў тое, і не баіцеся сказаць нам праўду?

— Каб усю праўду ведаць, трэба быць Богам. Але няхай хоць паўстагоддзя пасля смерці Зінаіды М. гляне яе забойца або той, хто яму за гэта даў грошы, у ейны твар.

**Міра Лукша**

**Фота з архіва сям'і К.**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Рэпрэсіі і партызаны

У кастрычніку 1941 г. немцы пачалі праследаванне яўрэйскага насельніцтва. Пачаліся расстрэлы і накладанне кантрыбуцый. Вялікую дапамогу акупантам у гэтай справе аказвалі пастарункі паліцыі, асабліва тыя, у якіх камендантамі былі польскія нацыяналісты. Такія людзі рабілі розныя подлыя ўчынкі, каб падлабізіцца акупантам. Праводзіліся арышты, а нават расстрэлы зусім нявінных людзей яўрэйскай, беларускай і расейскай нацыянальнасцей.

У вёсцы Сверанава Стаўбцоўскага раёна ў жніўні 1941 г. створаны быў пастарунак паліцыі. Яго камендантам стаў сяржант былога польскага Корпуса аховы пагранічча, а дапамагалі яму яшчэ тры радавыя паліцыянты таксама польскай нацыянальнасці. У памяці мясцовага насельніцтва запісаліся яны многімі ганебнымі ўчынкамі. Напрыклад, расстралялі без суда нявінных людзей, якіх абвінавацілі ў камунізме і спрыянні савецкім уладам. Але і з імі самімі лёс абышоўся таксама жорстка. Вясною 1942 г. ў Сверанава прыйшло двух нямецкіх салдат без зброі і сталі хадзіць па хатах ды прасіць яек і сала (шпэку). Яны збіраліся ехаць у водпуск у Нямеччыну і хацелі запасціся дармовымі харчамі. Каменданту пастарунка здалося, што гэта савецкія дыверсанты. Паліцыянты хуценька іх злавілі і расстралялі, а сам камендант далажыў сваім нямецкім начальнікам пра расправу над савецкімі шпіёнамі ў мундзірах вермахта. У Сверанава неадкладна выехала жандармерыя. Калі раскапалі магілу, аказалася, што ў ёй пахаваны сапраўдныя нямецкія салдаты, толькі ўжо босыя. Неўзабаве выявілася, што боты і гадзіннікі камендант і паліцыянты падзялілі паміж сабою. За гэтае злачынства немцы прыгаварылі ўсю каманду пастарунка да вышэйшай меры пакарання — павесілі іх у красавіку 1942 г. на цэнтральнай плошчы Стоўбцаў.

У маі або чэрвені гэтага ж года акупацыйныя ўлады паведамляюць у газетах, што Беларусь стане незалежнай дзяржавай і будзе дружна супрацоўнічаць з магутным III Рэйхам. Неўзабаве пачаліся чысткі, а з кіруючых пасад у адміністрацыі і паліцыі звольнілі ўсіх тых, хто запісаліся палякамі.

З першых дзён нямецкай акупацыі адкрыліся цэрквы і касцёлы. Забаронена было толькі званіць у званы і тлумачылася гэта тым, што такі дазвол будзе дадзены пасля здабыцця Масквы. На пачатку 1942 г. ксяндзам было забаронена гаварыць казанні на польскай мове, а калі хто не падпарадкаваўся гэтаму загаду, пагражала яму ссылка ў канцэнтрацыйны лагер.

У палове 1942 г. пачала арганізавацца савецкая партызанка. У лес сталі ўцякаць савецкія ваеннапалонныя, якія пасля адыходу Чырвонай Арміі па дазволу немцаў уладкаваліся на працу ў гаспадароў. Гэтыя салдаты ў большасці паходзілі з глыбіні Савецкага Саюза і хацелі ў спакоі перачакаць аж іхняя мясцовасці будуць „вызвалены" нямецкімі войскамі. На працы паводзілі яны сябе спакойна і сумленна выконвалі свае абавязкі. Некаторыя палонныя нават жаніліся з мясцовымі паннамі і ўдовамі. На ўзнікненне партызанскага руху несумненна паўплываў той факт, што акупацыйныя ўлады загадалі ўсім былым салдатам Чырвонай Арміі явіцца на зборныя пункты, адкуль адпраўлялі іх цягнікамі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Значная большасць гэтых салдат падпарадкавалася загаду, але частка чырвонаармейцаў пачала скрывацца ў лясах. Спачатку былі гэта групы з некалькіх чалавек, а іхняя дзейнасць зводзілася да грабяжу сялянскага дабытку. Днём баязліва скрываліся яны ад нямецкага войска і паліцыі, а ноччу хадзілі па вёсках ды рабавалі адзенне і харчы, забіралі гадзіннікі і іншыя каштоўныя прадметы. Мала таго, бралі з сабою прыгажэйшых дзяўчат для сваіх камандзіраў.

На хутарах вёскі Баханы жыло некалькі сем'яў па прозвішчы Лапко. У адной сям'і была прыгожая маладая дзяўчына Людміла, якую папросту называлі Люсяй. І вось аднае ночы ў хату ўвайшлі два „партызаны" і сказалі: „Нашему командиру нужна жена, а нам — медсестра, чтоб раненым делала перевязки. Собирайся с нами в лес". Дзяўчына стала плакаць і ўмаляць салдат, што яна не ведае санітарнай справы і што не мае ахвоты выходзіць замуж за чалавека, якога зусім не ведае, ды жыць з ім у лесе. Бацькі выкупілі дачку, даўшы ім гарэлкі і залатыя пярсцёнкі. Пасля некалькіх дзён тыя ж самыя „партызаны" зноў прыйшлі за Люсяю. Дзяўчына гэтым разам уцякла з хаты, а начныя няпрошаныя госці патурбавалі бацькоў і забралі лепшую вопратку. Люся вымушана была скрывацца, а бацькі падаліся ў мясцовы пастарунак беларускай паліцыі са скаргай. Люся вярнулася ў хату, а паліцыя стала наглядаць за хутарам. І вось адной ночы ў хату ўварваліся тыя ж самыя малойчыкі і загадалі дзяўчыне ісці з імі ў лес. На прызыў паліцыянтаў кінуць зброю і падняць рукі ўверх, „партызаны" кінуліся наўцёкі і паліцэйскія застрэлілі іх абодвух.

Трагічным аказаўся пазнейшы лёс удзельнікаў гэтага здарэння. У памятную ноч хутар ахоўвалі Мікалай Капуста са Слабады і Янка Грамыка са Сцяцкоў — абодва беларусы. Пасля вайны М. Капусту застрэліў на сваім панадворку, без суда, функцыянер НКУС. Я. Грамыка быў прыгавораны да 20 гадоў турэмнага зняволення; выйшаў на свабоду пасля смерці Сталіна і цяпер жыве на Украіне. У 1945 г. НКУС арыштаваў Людмілу Лапко, якая не хацела стаць каханкай патызанскага камандзіра. Не ведаю, які прыгавор яна атрымала.

У 1942 г., калі пачынала арганізавацца савецкая партызанка, нямецкія ўлады заахвочвалі сялян стварыць гэтак званую самаахову з мэтай супрацьдзеяння бандыцкім нападам, а яе ўдзельнікам давалі зброю. Атрады самааховы стварылі жыхары вёсак Налібакі, Рубяжэвічы, Даўнары і Лань. Пасля некалькіх месяцаў, у пачатку 1943 г. сяляне першых трох вёсак перайшлі са зброяй да партызан. Жыхары вёскі Лань ахоўвалі свае сядзібы да канца акупацыі, за што былі строга пакараны савецкімі ўладамі.

У 1942 г. акупанты запатрабавалі, каб сяляне прымалі ўдзел у ахове чыгункі ноччу. Сяляне з вёсак, якія знаходзіліся побач чыгуначных шляхоў, некалькі месяцаў хадзілі на начныя дзяжурствы, але без зброі. Здаралася, што партызаны забіралі з сабою начных вартаўнікоў, падклаўшы пад рэйкі міны. Восенню 1942 г. немцы вызвалілі сялян ад гэтага абавязку. Некалькі разоў і мне самому прыйшлося вартаваць чыгунку.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# Дзеля таго, каб застацца самім сабою

*Працяг са стар. 1*

*— Чаму Вы вырашылі пайсці ў беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім?*

— Тады маім аднасяльчанам не ўяўлялася, што можна пайсці ў іншую школу. Ліцэй быў наш. Ну, і менавіта тут я трапіў на такую слаўную асобу, як Яраслаў Кастыцэвіч, які быў ад пачатку і да канца ліцэя як мой родны бацька. Пыталіся ў яго, чаму ён ездзіць па „одпустах" — царкоўных святах, бо дырэктару рабіць гэта ў той час не выпадала. А ён і кажа: „Мае кандыдаты ў ліцэй — дзеці сялянскія, і толькі на царкоўных святах магу я іх вербаваць у сваю школу". Дзякуючы яму і яго апецы я бадай і пайшоў у духоўную семінарыю. Яраслаў Кастыцэвіч заўсёды быў блізкі Царкве, бо царкоўныя справы былі яму родныя.

*— Але адначасова шмат было тады нашых у бяспецы і органах новай улады!*

— Нашы людзі ў пасляваенных пераменах бачылі шанц жыццёвага авансу і не адносіліся варожа да ўлады. Імпанавала ім магчымасць увайсці нароўні з іншымі ў рэчышча карысных змен, каб ужо не быць на абочыне жыцця, як гэта было ў санацыйнай Польшчы.

*— Ці цяжкое дзяцінства не дапамагло і Вам у жыццёвым старце?! Вядома ж, што насуперак лёсу такія людзі заходзяць вельмі высока.*

— Сапраўды, яно мабілізавала мяне да працы. Час быў цяжкі, пасляваенны. Такі лёс выпаў на наша пакаленне. Вучоба ў беларускай школе аб'ядноўвала нас, сялянскіх дзяцей, у адно і давала дарогу ў свет. Мы тут станавіліся мацнейшыя.

*— Як успрынялі Вы наступныя перамены — у пяцьдзесят шостым?*

— Я якраз заканчваў ліцэй. Мы былі на раздарожжы — ці вывучаць далей Дарвіна, ці выбіраць іншую дарогу. Я вырашыў, што „хто малпай быў, той ёю і застаўся", і пайшоў іншым шляхам. Перада мною адчыніліся дзверы духоўнай семінарыі.

*— І Вы паехалі вучыцца ў Варшаву?!*

— У духоўную семінарыю прымалі і пасля падставовай школы, а за мною ўжо быў ліцэй, дык я мусіў залічыць толькі тэалагічныя прадметы. Варшаўскую духоўную семінарыю я прайшоў за два з палавінай года і, заканчваючы яе, я ўжо быў студэнтам першага курса Багаслоўскай акадэміі ў Варшаве. Так што ў 1960 годзе я закончыў семінарыю і першы курс акадэміі.

*— І ў гэтым жа годзе Вы заснавалі сям'ю?*

— Так. У дваццаць адзін год я ажаніўся з настаўніцай Антанінай Троц са свайго прыхода і ў гэтым жа годзе быў рукапалажаны ў свяшчэннікі і накіраваны ў прыход.

*— Не адразу ў свае старонкі?*

— Сапраўды. Пасля пастырскага стажу ў Пярэмышльскім павеце я быў назначаны ў верасні шасцідзесятага года настаяцелем у пасёлку Кодэнь (сёння Белападляшскае ваяводства). Але менавіта тут я пачаў глыбей разумець гісторыю народа, для якога працаваў, і яго лёс, часамі горкі і несправядлівы. І тут нарадзілася ў мяне тэма магістэрскай працы пра Брэсцкую унію. Я яе напісаў на заканчэнне акадэміі ў 1964 годзе. Ад панядзелка да пятніцы я быў у Варшаве ў акадэміі, а на суботу і нядзелю вяртаўся ў прыход. 260 кіламетраў у адзін бок і столькі ж — у другі.

*— Але тады ўжо, можна сказаць, Вы вярнуліся дахаты...*

— Так. Пасля заканчэння акадэміі мяне перавялі бліжэй дому — на родную Беласточчыну. Я пачаў працаваць у Сямяцічах вікарыем. Там я затрымаўся на чвэрць стагоддзя. Апрача пастырскай працы, менавіта там запаланіла мяне навуковая дзейнасць. Два разы я падыходзіў да доктарскай працы. Першы раз пачынаў у прафесара Клінгера, але ён памёр, а пасля ва ўладыкі Савы.

Аднак жа, калі дзякуючы прыхільным адносінам тагачаснага старшыні Беластоцкага навуковага таварыства прафесара Васіля Чачугі з'явілася магчымасць друкаваць кніжкі пра праваслаўе (больш таго, ён сам запрапанаваў мне гэта, хаця я ведаў, якая нялёгкая справа чакае нас), я вырашыў заняцца публікатарскай дзейнасцю коштам доктарскай працы. Я меркаваў, што гэтая праца прынясе больш карысці майму народу.

*— І, калі можна заўважыць, Вы, айцец Рыгор, не памыліліся! Цяжка пераацаніць гістарычнае значэнне вашых кніжак і артыкулаў.*

— Першай кніжкай, якая выйшла, была „Бібліяграфія праваслаўных прыходаў на Беласточчыне. Алфавітная частка". Пасля нарадзілася „Храналагічная частка". У трэцяй кніжцы я распрацаваў асабовы склад духавенства на Беласточчыне (1839—1986). Да сёння выйшла дзевяць кніжак, дзве яшчэ ў друку.

*— Як успрыняло асяроддзе паяўленне Вашых першых кніжак?*

— Даволі прыхільна. Былі гэта 1984—86 гады. Кніжкі паўсталі пасля гадоў застою, калі нельга было публікаваць кніжкі адносна царкоўнага жыцця.

*— Якую сваю кніжку Вы лічыце найбольш каштоўнай?*

— Найбольш каштоўнай я яшчэ не выдаў. Хацелася б прадаўжаць распачатую тэматыку, а таксама распрацаваць тэму ўсходняга хрысціянства. Усё ў руках Божых. На гэта трэба мець здароўе, час, спонсара, а на ўсё Боскае бласлаўленне.

*— Калі пачалося Ваша супрацоўніцтва з „Нівай"?*

— Дакладна ад 19 кастрычніка 1980 года. Дзякуючы зычлівасці галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага паўстаў мой „Бібліяграфічны куточак", а таксама „Помнікі культуры", дзе ў крыху завуаліраваным выглядзе былі прадстаўлены цэрквы Беласточчыны. Тады, памятаю, Пётр Байко напісаў: няважна, хто гэта робіць, але робіць добрую работу.

*— У Менску ў мяне раней пыталіся (Мальдзіс, іншыя): а хто гэта такі Рыгор Сасна? цікавы чалавек! — а я мусіла доўга расказваць пра Вас.*

— А я, калі быў у Менску ў бібліятэцы, дык мне задалі пытанне: „Як гэта можа быць — свяшчэннік, ды займаецца навуковай працай?!" Я адказаў: „Каб народ навучаць, трэба перш-наперш самому пазнаць яго гісторыю, тым больш у нашай спецыфічнай сітуацыі: калі па нашай зямлі пракаціліся першая і другая сусветныя войны, у час якіх наш народ прынёс у ахвяру столькі жыццяў дзеля таго, каб застацца самім сабою". У Менску таксама адзін з навуковых супрацоўнікаў Акадэміі навук падсумаваў: „Добрая справа, але ў нас гэтым займаецца інстытут, гэта значыць, чалавек пятнаццаць".

*— А ў нас — адзін чалавек, ды не за зарплату, і не ў навуковым кабінеце, а побач са сваёй прафесійнай, душпастырскай працай выдаў столькі кніг, а да 1993 года была надрукавана ў розных выданнях 301 яго публікацыя!*

— Сям'я мая цярплівая...

*— Праваслаўныя людзі наогул цярплівыя. Аднак жа голым вока відаць, што робіцца ім усё цясней на сваёй беластоцкай зямліцы. Вось хаця б справа Супрасльскага манастыра ці мешаных сужонстваў.*

— Мешаныя сужонствы — для нашай царквы вялікая няшчасце, вялікая страта. Таксама, як і імкненне да пазбаўлення нас помнікаў праваслаўя на Беласточчыне. Ды і няверуючы мог бы зайсці часам у царкву і запаліць свечку. Каб быў са сваімі і памятаў пра свае карані. Дзеля таго менавіта, каб застацца самім сабою.

*— Сардэчна дзякую за размову. Ад імя рэдакцыі зычу Вам добрага здароўя і няспыннага творчага натхнення і нястомнасці ў далейшым служэнні свайму народу.*

1 ліпеня 1995 года
вяла гутарку і фатаграфавала
**Ада Чачуга**

# 9-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 14: 22-34)*

Евангелле 9-ай нядзелі пасля Пяцідзесятніцы ўзятае з 14-га раздзела Евангелля паводле Матфея. Яно прыносіць глыбоказмястоўнае, сімвалічнае апавяданне пра суцішэнне буры і ўратаванне ад утаплення апостала Пятра. Ён пажадаў ісці па вадзе ды ішоў, аднак спалохаўшыся буры і ветру, страціў веру і пачаў тануць. Хрыстос выратаваў яго але і папракнуў за малавернасць. „Чаму Ты сумняваўся", — сказаў Гасподзь Пятру.

Сімвалічнасць гэтага апавядання заключаецца ў тым, што сапраўды жыццё можна параўнаць з морам. Яно прыносіць навальніцы і вецер, спакусы і небяспекі. Гэты цяжкі жыццёвы шлях патрабуе перш за ўсё веры. Для чалавека — гэта фундаментальнае пытанне; яно непараўнальнае з нічым іншым. У штодзённым жыцці назіраем, што наш лёс і быт шмат у чым акрэсліла прафесія або якія нам трапіліся муж ці жонка. Вера ахоплівае ўсе сферы жыцця. Яна вызначае наша стаўленне да сямейнага жыцця, да працы; акрэслівае нашы ідэалы і светапогляд. Вось таму гэта справа выключнай важнасці гэтак для паасобнага чалавека, як і неабыякавая для цэлага грамадства.

Святое Пісанне вучыць, што вера абсалютна неабходная і нічым немагчыма заступіць яе. Гэта акт даверу і самааддачы, калі адчыняем Богу дзверы свайго сэрца. „Вер у Госпада Ісуса, а збавішся ты і дом твой", — чытаем у Дзеях Апостальскіх. У Евангеллі часта гучаць словы: „Вера твая збавіць цябе... калі будзеце мець веру як гарчычнае зерне, нічога не будзе немагчымага для вас". Святое Пісанне падкрэслівае, што вера — гэта Божы дар, які неабходна развіваць і руліцца пра ягоны рост. Яна ніколі не бывае статычнай; умацоўваецца або слабее на працягу жыцця. Людзі, гэтак як апостал Пётр, сумняваюцца, расчароўваюцца і азіраюцца назад... Не хапае ім рашучасці, каб лёс свой цалкавіта перадаць у Божыя рукі.

Шмат стагоддзяў таму, калі крылы рымскага арла кідалі цень на ўвесь тагачасны свет, мужныя воіны Цэзара накіраваліся пакараць Вялікабрытанію. Калі на гарызонце паявіліся рымскія караблі, абарыгены згуртаваліся, каб бараніць сваю краіну. На іх вялікае дзіва, першае, што зрабілі рымляне — гэта спалілі свае караблі. Яны засталіся без магчымасці адступлення. З такім непераможным духам яны мусілі перамагчы і перамаглі. Нічога дзіўнага, што з часам малая вёска на беразе Тэмзы стала валадаркай усяго свету.

Ступіць на шлях веры — значыць поўнасцю падпарадкавацца Богу. Гэтак паступіў Аўраам, выбіраючы беспрытульнасць і прыносячы ахвяру са свайго асабістага шчасця дзеля вышэйшага дабра. Падобна паступіў і Майсей, калі адмовіўся ад раскошнага жыцця ў Егіпце, каб сярод невыгодаў і цяжкасцей выканаць Божы план.

Веру дэкларуюць многія, бо дэкларацыя нічога не каштуе. Горш з тым, каб паводзіць сябе ў адпаведнасці са сваімі дэкларацыямі. Неаднойчы з сорамам ловім сябе на разладзе паміж абяцаннямі і фактам. Шмат людзей рэгулярна ходзіць у свае цэрквы, прытрымоўваецца традыцый і абрадаў, аднак у штодзённым жыцці жыве нягодна. Чаму, напрыклад, у краіне, дзе 90% каталікаў, маю на ўвазе Польшчу, абавязкова трэба ўхваляць закон супраць абортаў. Калі гэта сапраўды каталіцкая краіна, дык не патрэбны ніякі свецкі закон: хопіць аднаго запавету: „Не забівай". Крывадушная пабожнасць уражвае, калі глядзім славуты фільм Фрэнсіса Копалі „Хросны бацька". Проста не ўмяшчаецца ў галаве, як можна сумясціць злачынную, мафіёзную дзейнасць з сур'ёзным, дбайным удзельніцтвам у касцельным жыцці.

Практыка наогул у разладзе з тэорыяй. Бадай галоўная праблема не ў тым, што існуе адкрытае няввер'е, але ў тым, што сама вера фармалізавалася і мала выяўляецца ў практычным жыцці. Падчас вялікай справаздачы апошняга суда мы праўдападобна пачуем дакор: „Вы толькі называліся хрысціянамі, аднак ніколі не былі імі".

Такі вось агульны вывад з нашага сённяшняга разважання аб веры.

**а. Канстанцін Бандарук**




*Царква ў Грыневічах.*
**Мал. Барыслава Рудкоўскага**

# Беларускі фэстын у Гайнаўцы...

Дажджлівае надвор'е ў нядзелю 23 ліпеня прымусіла арганізатараў перанесці мерапрыемства з амфітэатра ў Дом культуры „Гурнік". Перапоўненая да крайнасці глядзельная зала не змагла прыняць усіх аматараў беларускай песні.

Фэстын адкрыла гаспадар Гайнаўкі, бурмістр Ядвіга Рудзіньска-Патэюк, якая сардэчна прывітала Генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку праф. Міхася Слямнёва і паслоў у Сейм Рэчы Паспалітай Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву. З кароткай прывітальнай прамовай на рускай мове выступіў госць Анатолій Міхайлавіч Качко, старшыня Райвыканкама ў Свіслачы, які ўзначаліў шматлікую групу беларускіх дзеячоў, што прыбылі з рэвізітам на Гайнаўшчыну ў рамках прыгранічнага супрацоўніцтва. Выступілі таксама дзеяч БГКТ ў Гайнаўцы Міхась Голуб і з шырэйшым словам аб ролі беларускіх культурных мерапрыемстваў на Беласточчыне старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі.

Мастацкую праграму вяла як заўсёды дасканала сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч.

У праграме з поспехам выступілі: „Гайнавяне" з Гайнаўскага дома культуры, „Арэшкі" з Арэшкава, бельская „Маланка", „Чыжавяне" з Чыжоў, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, жаночы хор з Паўлаў, эстрадныя маладзёжныя калектывы „Рэаль" і „Ас" з Беластока і „Чарамшына" з Чаромхі. Выступіў таксама гасцінна ансамбль народных інструментаў з пасёлка Поразава, які мае сваю сядзібу ў Доме культуры ў Свіслачы. Выканаў ён некалькі мелодый, папулярных таксама і на Беласточчыне, рускіх савецкіх песень.

На фэстыне падпісвалі свае кніжкі „белавежцы" Янка Целушэцкі і Віктар Швед. Прадаваліся тут таксама касеты з рэпертуарам беларускіх мастацкіх калектываў з Беласточчыны.

Пасля фэстыну ў Гайнаўцы моладзь наладзіла ў „Карчме пад грабамі" танцавальную вечарыну.

## ... і ў Орлі

Дождж прагнаў таксама ўдзельнікаў беларускага фэстыну з новапабудаванай эстрады на паветры ў аграмадную гімнастычную залу прыгожага школьнага будынка ў Орлі. Энергічна завіхаўся тут гаспадар Орлі, войт гміны Міхась Іванчук. Мігам прынеслі са школы крэслы і неўзабаве зала была біткам набітая мясцовай публікай і жыхарамі навакольных вёсак.

Войт гміны Міхась Іванчук сардэчна прывітаў Генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку праф. Міхася Слямнёва і паслоў у польскі Сейм Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву. Выступіў таксама з кароткай прамовай старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Валянціна Ласкевіч абвясціла і павяла мастацкую праграму.

Першым выступіў у новых нацыянальных касцюмах хор „Арляне", які ў бягучым годзе адзначае пяцідзесяцігоддзе мастацкай працы. Потым рэкамендаваліся калектывы, што пераехалі з Гайнаўкі: „Маланка", „Чыжавяне", „Арэшкі", „Хлопцы-рыбалоўцы", „Красуні", „Рэаль" і „Ас", а таксама хор з Паўлаў. Прыехалі спецыяльна ў Орлю бельскія „Васілёчкі" і галасісты хор з Дубяжына, пад кіраўніцтвам вядомага спевака Алеся Раманюка. Вельмі добра, што хор з Дубяжына, пасля доўгага перапынку, ізноў вяртаецца на сцэны беларускіх культурных мерапрыемстваў.

Усіх выканаўцаў зала ўспрымала надзвычай сардэчна, не шкадуючы далоняў для гарачых воплескаў.

Трэба падкрэсліць, што Міхась Іванчук, энергічны войт гміны ў Орлі, з'яўляецца адным з нямногіх войтаў у беларускім асяроддзі на Беласточчыне, які не цураецца беларускай літаратурнай мовы і выступае на ёй афіцыйна, у першую чаргу на культурных мерапрыемствах арганізаваных Беларускім таварыствам.

Пасля фэстыну была наладжана гасціна з удзелам членаў мастацкага калектыву „Арляне" і запрошаных гасцей.

А моладзь танцавала да раніцы.

**Віктар Швед**
**фота Сяргея Грынявіцкага**



*Спявае "Маланка".*

# УГОДКІ II УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСА

У нядзелю, 2 ліпеня 1995 г., беларуская грамадскасць чатырохмільённага горада Сіднея афіцыйна адзначыла гадавіну II Усебеларускага Кангрэса, які адбыўся ў Менску 27 чэрвеня 1944 г.

Знішчыўшы незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі і стварыўшы на яе месцы Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, маскоўскія чырвоныя імперыялісты з вялікай трывогай глядзелі на той вялікі нацыянальны ўздым беларускага народа і на тое нацыянальнае адраджэнне, якое праводзілася пад кіраўніцтвам камуністычнага — але чыста беларускага — урада БССР. Масква добра ведала, што гэтае нацыянальнае адраджэнне пагражае развалам расейскай імперыі і што беларускія дзеячы, нягледзячы на іхнюю прыналежнасць да камуністычнай партыі, раней ці пазней пачнуць дамагацца і змагацца за поўную незалежнасць Беларусі, і ў 1929 годзе пусціла ў ход свой першы антыбеларускі пагром, з тым трагічным рэзультатам, што ў 1929—1939 гадах больш за чатыры мільёны беларусаў былі або фізічна замардаваны ў розных Курапатах маскоўскімі крывапіўцамі і іхнімі беларускімі калабарацыяністамі або вывезеныя на вечную катаргу і смерць у далёкія ад Беларусі часткі маскоўскай імперыі.

Пераважная бальшыня беларускай інтэлігенцыі, уключаючы тых, якія належалі, а нават узначальвалі камуністычную партыю Беларусі, была знішчана і Сталін у Маскве — таксама як і Гітлер у Берліне ў яго намаганні знішчыць яўрэяў — думаў, што нарэшце і назаўсёды вырашыў „белорусский вопрос". Аднак, як аказалася і ў чым нават і сам вораг пераканаўся, ёсць шмат лягчэй ворагу расстраляць нявінную беларускую сямейку, чым выбіць Ідэю Незалежнасці Беларусі з сэрцаў і розуму беларускага народа.

У параўнальна хуткім часе кроўныя — па дыктатарству і тэроры — браты, Сталін і Гітлер, пасварыліся паміж сабою і ў чэрвені 1941 года пачаўся наступ гітлераўскай Нямеччыны на чырвоную маскоўскую імперыю і літаральна за некалькі дзён бальшыня тэрыторыі Беларусі была занятая нямецкай арміяй. Сітуацыя была вельмі складаная і небяспечная, аднак патрыёты беларускага народа адразу прыступілі да аднаўлення моцна разбуранага беларускага нацыянальнага жыцця. Прыхільнікі маскоўскага імперыялізму абвінавачваюць патрыётаў у калабарацыянізме з немцамі, аднак нават і вораг ведае, што беларускія патрыёты працавалі для дабра і нацыянальнага адраджэння сваёй краіны і вораг павінен таксама ведаць, што **святым абявязкам кожнага зняволенага народа было, ёсць і заўсёды будзе выкарыстоўваць кожнага ворага і кожную нагоду, каб хаця часткова адбудаваць, падмацаваць нацыянальнае жыццё сваёй краіны** і тагачасныя беларускія нацыянальныя дзеячы добра гэта разумелі, калі яны, выкарыстоўваючы слабасць немцаў, склікалі ў Менску 27 чэрвеня 1944 г. II Усебеларускі Кангрэс, які зацвердзіў абвяшчэнне незалежнай Беларусі актам 25 сакавіка 1918 года і заявіў ўсяму свету аб сваёй рашучасці змагацца за вольнасць і дзяржаўную незалежнасць аж да пераможнага канца.

Урачыстае святкаванне пачалося а гадз. 10-й раніцы божай службай у праваслаўнай царкве ў прыгарадзе Гомбуш, дзе айцец Ігар адслужыў малебен за Беларусь і Яе народ. А гадз. 13-й пачалася афіцыйная сустрэча ў Беларускім клубе ў Фэйрфілдзе. Зала была перапоўненая беларусамі і іхнімі гасцямі. Старшыня клуба Міхась Лужынскі адкрыў сход змястоўнай і патрыятычнай прамовай. Пасля С. Шаўцоў, удзельнік II Усебеларускага Кангрэса, зрабіў пашыраны даклад аб тых змагарных дарогах, па якіх праходзілі беларускія патрыёты ў тыя небяспечныя часы. На заканчэнне ўсе прысутныя адспявалі гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**Алесь Алехнік**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXI**

Бацька даволі шырока расказваў аб трактоўцы радзімы з боку прадстаўнікоў і кіраўнікоў кастрычніцкай рэвалюцыі, якія стараліся стварыць новае разуменне прыналежнасці чалавека да айчыны. Навізна ў выкананні бальшавіцкіх саноўнікаў зводзілася, па сутнасці, да нігілістычнага трактавання традыцый радзімы і спроб стварэння чагосьці новага, што вяло б сваю радаслоўную ад кастрычніцкага перавароту.

„Калі ўжэ цябе так цікавіт гэта родзіна, то я табе скажу, што калі я быў яшчэ на фронці, а после ў Маскве, то вельмі часто ў нас праводзіліся міцінгі і выступалі аратары. От ад некаторых беларусоў з нашых старон, каторы служылі ў другіх палках, то я чуў, што ў іх то нават выступалі беларускі аратары, па-беларуску гаварылі, што Беларусь павінна быці незалежным гасударством. Але ў нашым палку то такіе ні выступалі. Якce раз быў павіўсе украінскі аратар але беларускаго то я ні бачыў. Я много разоў слухаў толькі рускіх і пачці што ўсе яны былі бальшавікамі. Ну а два разы ў Маскве то я слухаў Троцкага, а Леніна то мне ні прышлосе бачыці і слухаці. То ты знаеш, што гэто быў за чалавек, гэты Троцкі? Гэто быў такі шустры жыдок. Эх, як ён клубаваў на трыбуні! Быў адзеты ў кожану тужурку і меў на паску вялізны рэвальвер. Ён нават секунды ні стаяў на месцы, а гаварыў так гладко, што часто слухаючы яго, здавалосё, што мурашкі па плячах бегают. Такая гэто халера была. Ну то што ён там выкрыкваў? Ён гаварыў, што пралетар і мужык ні мают родзіны, бо ад пралетара забралі буржуі фабрыку, а ад мужыка памешчыкі аднялі зямлю. Ну а калі чалавек ні мае ніякаго маёнтку, то ў яго німа ніякае родзіны. Ён, значыцца, жыве без родзіны і ўсё! І толькі тады, калі пабедзіт рэвалюцыя і аддаст рабочым заводы, а мужыкам зямлю на вечну ўласнасць, то яны разам з гэтымі заводамі і зямлёю палучат і нову рэвалюцыйну родзіну. Ну, бачыш, як гэто хітро. А што сталасё после, то ведомо — фабрыкі забралі ад капіталістаў, але аддалі іх не рабочым, а толькі гасударстваві. А што касаецца зямлі, то праўда, на пачатку забралі яе ад памешчыкаў і далі мужыкам, але пасля то забралі ад іх ні толькі тую, што была ад памешчыкаў, але і тую, што яны ад вякоў мелі сваю, забралі і загналі ў калхозы. От табе і маеш нову рэвалюцыйну родзіну! Забралі ні толькі зямлю але і плугі, і бораны, і коні, і жывіну, адным словам пачысціці так, што мужык астаўся зусім голы. Ну то, па-моему, то пры цары ён разам з сваёю малою гаспадаркаю то хоць крыху меў тае родзіны. А што палучыў ад бальшавікоў? Хвігу! Ну, але я табе яшчэ скажу, што гаварыў той Троцкі. Ён, помню, крычаў так: „Красного рэволюционного всадника не задержит ни польская Висла ни германский Рейн, ни испанский океан. Он победит всех и всё, дойдет до океана, переплывёт его и установит революционную власть также в Америке, Африке, а на юге переедет через пустыни и Гималаи и победит в Азии. Красный всадник победит везде. И только после этого будет восстановлена социалистическая родина для всех трудящихся мира".

Ну і ён яшчэ гаварыў, што ні можэ быці ніякае непрыязні і ўражды між рабочым рускім, немецкім, польскім чы амерыканскім. Значыцца, усе яны адзін другого любят. Ну, а калі яны з сабою ваюют, то таму, што іх да гэтаго прымусіла буржуазія. Але яны, значыцца гэты трудавыя людзі, аб нічым другім і ні думают, толькі аб тым, каб даці па шапцы сваім буржуям і памешчыкам і стварыці адну вяліку родзіну для ўсіх, адну ў Еўропі і ў цэлым свеці. То ты знаеш, я слухаў гэтаго Троцкаго і ні вельмі яму верыў. Відно ён ні ведаў, што думаў той Крыштоф, аб каторым я табе гаварыў і каторы прысягнуў ксяндзу, што будзе ваяваць за незалежну Польшчу. А ён жэш быў ні памешчык, але звычайны мужык. То відно гэты Крыштоф ні мечтаў аб тым, каб меці адну родзіну з рускім мужыком. Відно ему хацеласё меці толькі сваю польску родзіну.

Ну а мы, беларусы, то ведомо ж, вецечко. Куды нас папхнут, то мы там і будзем стаяці, што скажут рабіці, то тое і зробім. Нас было поўно ў царскуй арміі, а после то мы пачці што ўсе служылі ў Красной Арміі. А еслі каго схвацілі, як хоць бы Ёзыба Казберука ў белу армію, то служыў белым. То бачыш, ніхто з нас так выразно то ні панімаў, што ён ні рускі і што мае беларуску родзіну, хоць кожны, ведомо, любіў свой родны край. Значыцца той, у каторым ён нарадзіўся. І я таксамо такі быў. Але Троцкаго з яго цэлаю гэтаю міждународною родзінаю то я ні панімаў".

**Алесь Барскі**




У цёплае надвор'е мяса і рыба хутка псуюцца. Каб асвяжыць мяса або рыбу, якія пачалі псавацца, на дно каструлі палажыце кавалак драўлянага вугалю, прыкладна велічынёю з курынае яйка. Мяса парэжце на кавалкі, добра прамыйце ў халоднай вадзе. Пакладзіце ў каструлю з вугалем і заліце халоднай вадой. Вады трэба наліць столькі, каб яна пакрыла мяса, і пакінуць так стаяць 2—3 гадзіны. Пасля вугаль выміце і варыце мяса ў гэтай вадзе.

* * *

Калі ў вас няма халадзільніка, а на двары гарачае лета, наліце ў таз вады і пастаўце туды посуд з прадуктамі. Мяса захаваецца дзень—два, калі вы яго зальеце сырым малаком, каб усё было пакрыта. Малако затрымлівае размнажэнне гніласных бактэрый.

* * *

Перш чым пачысціць гародніну, вымыйце яе старанна пад струменем вады: буракі, радыску, моркву патрыце шчоткай.

Гародніну чысціце нажом з нержавеючай сталі. У скурцы знаходзяцца спажыўныя рэчывы, таму зразайце яе як мага меней.

Усе салаты з сырой гародніны трэба гатаваць непасрэдна перад падачай на стол, бо пры працяглым ляжанні гародніна страчвае і спажыўнасць, і смак.

Некалькі кропель лімоннага соку або воцату, даданыя ў салату адразу пасля прыгатавання, дазволяць захаваць у ёй больш вітаміну.

Калі лісце салаты завяла, апусціце яго на 15 хвілін у цёплую ваду і яно зноў стане свежае. Іншую гародніну можна асвяжыць, паклаўшы ў халодную ваду з воцатам (2—3 лыжкі). Праўда, ад гэтага змяншаецца колькасць каштоўных мінеральных рэчываў і вітамінаў.

Салату можна трымаць толькі ў шкляным, эмаліраваным або керамічным посудзе. Ні ў якім разе не ў металічным.

Морква ўтрымлівае шмат вітаміну А — каратыну, асабліва патрэбнага для зроку. Выкарыстоўвайце летні час, штодзень старайцеся з'есці 2—3 сырыя морквы, рабіце з яе сок для немаўлягак. Сырая летняя морква значна карысней, чым кансерваваная. Да таго ж яна спрыяе лепшаму страваванню.

* * *

Калі ў халадзільніку з'явіўся пах ад рыбы, мяса або іншых прадуктаў, пастаўце туды спадачак з падсмажаным зернем кавы.

* * *

Пацямнелыя ад работы ў садзе або ў агародзе рукі добра адмываюцца мыльнай пенай, у якую ўсыпана чайная лыжка цукровага пяску.

## Новыя паштоўкі

У ліпені г.г. у продажы паявілася 5 новых паштовак з выявамі розных цікавых аб'ектаў у Белавежы, а таксама зуброў і тарпанападобных конікаў. Серыю выдала Раённая ўправа пошты ў Беластоку. Аўтар здымкаў — Т. Чарнэцкі.

Паштоўкі даволі прыгожыя, каляровыя. На кожнай картцы змешчана па некалькі тэмаў. На жаль, падборка тэмаў не заўсёды прадумана да канца. Вось, на адной картцы бачым царкву, прыхадскі дом і... дом пуцявога абходчыка. А ці ж у месца апошняга аб'екта не лепш было змясціць здымак з іканастасам або могільнікавай капліцай ці капліцай, што на вул. Спартовай? Магчыма, што гэта атрымалася выпадкова, але я прыкмеціў, што здымкі царкоўных аб'ектаў выкананы былі згары, затое каталіцкія (на асобнай картцы) знізу. Быццам фатограф хацеў першыя ўціснуць у зямлю, памяншыць, а другія ўзвялічыць, прыдаць ім манументальнасці.

На іншай паштоўцы белавежскім аб'ектам спадарожнічае... гайнаўскі Дом культуры, хаця надпіс тлумачыць, што ўсе яны знаходзяцца ў Белавежы. Не ведаю ў чым белавежскі Дом культуры горшы за гайнаўскі? Я б даказваў, што ён і больш прыгожы, і больш арыгінальны.

Закід можна паставіць таксама надпісам. Яны надта павярхоўныя.

**Пётр Байко**

## Вер-не-вер




Астроне! Сніцца мне такі сон, што ў нас нейкая старая хацінка, саломай крытая, з маленькімі вокнамі. Ёсць там печка. Мая дачка падыходзіць да яе, каб падпаліць, як нешта яе ўцягвае ў тую печ. Я спалохалася, крычу, бегаю наўкола, каб яе неяк адтуль выцягнуць. Дачцэ самой удаецца з тае печы вылезці цераз дах.

Зося

Снілася мне, што б'юся з нейкімі пачварамі. Пабіла я ўсю тую брыдоту амаль дашчэнту. Але адну пусціла „люзам" — маленькая бестыйка пабегла. Не хацелася мне яе ўжо даганяць.

Зіна

Зося! Твой сон не прадвяшчае занадта добрае тваёй дачцэ. Печка наогул прадвяшчае, што ў гаспадарцы будзе добра. Але ж хацінка была старэнькая і крытая саломай. Ды калі б печка хаця была добрая і прыгожая. А яна, бач, уцягнула тваю дачку. Хаця табе не ўдалося выцягнуць яе адтуль, дык яна сама вылезла на дах. Думаю, што гаспадарчыя справы „ўцягнуць" яе да такой ступені, што будуць нейкія праблемы.

Што датычыць твайго, Зіна, сну, дык чакае цябе нейкая непрыемнасць, хвароба. Няважна тое, што адна бестыйка ўцякла. Істотна для сну тое, што ты білася з пачварамі.

Астрон

## Як адлучыць цяля ад каровы

Сяляне ведаюць, што з гэтым бываюць праблемы, пакуль цяля само прывыкне жыць адно і карміцца травою і сенам ды восыпкай ці аўсом і піць ваду, а не смактаць вымя маці. Бывае так, што цяля аслабне так і пару дзён не стае на ногі.

Мы рабілі так: бралі два літры малака ад тае каровы, што прывяла цяля, дадавалі 6 яек, тры лыжкі цукру, дзве лыжкі крухмалу, усё добра размешвалі, улівалі ў бутэльку, клалі шыйку бутэлькі на язык цяляці і паілі, нават праз сілу. Такое пойла давалі цяляці рана і ўвечары. Калі цяля станавілася на ногі, далей яго тым паілі і ўпіхалі ў рот сена ці іншы корм. Калі цяля ўжо добра ходзіць, пару дзён даваць яшчэ само малако або малако са збожжавай кавай. Калі цяля ўжо добра есць, можна ўжо паіць яго сырой вадой. Наша сям'я гэты спосаб прымяняла практычна з добрым вынікам, таму і раю яго іншым.

**Аўрора**

## Салавей спявае, пакуль жонкі не мае

У пачатку мая прылятаюць да нас салаўі: спярша самцы, а па некалькіх днях пасля — самкі. Іх біятопам з'яўляюцца кусты. Будовай гнёздаў, якія размяшчаюцца ў падножках дрэў, займаюцца на працягу чатырох дзён самкі. У другой палове мая зносяць яйкі, 4—6 штук, пасля, на працягу двух тыдняў, выседжваюць іх. Птушаняты прабываюць у гняздзе да 12 дзён; спачатку корміць іх самка, пасля і самец. Кормяць іх бацькі яшчэ праз тры тыдні ад першага вылету. Корміцца салаўі ў асноўным членістаногімі, а таксама і ягадамі. На зіму салаўі адлятаюць аж на поўдзень ад экватара: праз Эфіопію, Кенію, Танзанію ў Замбію. На іх вяртанне зноў трэба будзе чакаць да мая. Спяваюць салаўі ад мая да ліпеня — спяваюць самцы, якія не знайшлі яшчэ самкі. Калі знойдуць — моўкнуць.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Пагода і лета

Настане пагода,
Рушыцца работа,
Высушым мы сена,
Будзе перамена.
А калі адпачынак,
Можна ісці на рынак
У Гайнаўку, Кляшчэлі,
Нават у Падбелле.
А настане жніва,
Пабялее ніва —
Жыта абрадзіла
Вельмі, аж надзіва.

**Мікалай Панфілюк**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. кампартыя Заходняй Беларусі, 8. чатырнаццацірадковы верш, 9. турма, 10. порт у Йемене, 11. чарцёж зямной паверхні, 13. сталіца Кубы, 15. ягадная калючая расліна, 16. ядавітая змяя, 20. мястэчка каля Пружан, 22. невялікі лірычны хвалебны верш, 23. брат Каіна, 27. гасціна пасля вяселля ў бацькоў маладой і маладога, 23. кустовая расліна з чырвонымі або чорнымі ягадамі, 30. выступае пры згаранні, 31. вялікі салоны вадаём, 32. пласт карыснага выкапня, 33. страта, разрыў сувязі, 34. жаночае імя.

**Вертыкальна:** 1. пажыўная вадкасць, 2. старарускі храніст, 4. яго сталіцай быў калісьці Драгічын, 5. сталіца Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі, 6. другі пакос, 7. прымітыўная мельніца, 12. карэнны жыхар, тубылец, 14. расейская паэтэса (1889—1966), 16. аўтаномная рэспубліка на поўначы Расеі, 17. недастатак, 18. зямля для ворыва, 19. вялікі танцавальны вечар, 21. арганічная пунсовая краска з карэння марэны, 24. карысць, прыбытак, 25. майская кветка, 26. агародная расліна, 27. булка, 28. мужчынскае імя.

Ш

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 25 н-ра:**

**Гарызантальна:** важаты, музыка, градка, вада, звон, мітрапаліт, кіно, Акад, Алецка, Надзея, шалфей.

**Вертыкальна:** варыва, тыгр, мука, кантон, адшчапенец, даміно, звітак, Кіруна, Адысей, алея, каша.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Бэаце Капій з Любліна і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

## Жнівень у гаспадарцы

Працягваецца ўборка яравых культур. Пачынаецца абмалот азімых. Трэба ачышчаць насенне для асенняй сяўбы. Сіласуем кукурузу і іншыя расліны.

Рваць лён, раннюю цыбулю, мак, фасолю, гарох. Саліць агуркі на зіму. Сушыць і марынаваць грыбы, фрукты; варыць варэнне і кансерваваць.

Выбіраць мёд з вулляў. Павялічваць пасеку. Рыхтаваць пчолы да зімы, звужваць гнёзды.

Касіць траву. Араць поле пад азіміну, прыворваць лубін.

Надвор'е і народныя прыкметы

## ЖНІВЕНЬ

Ілля наробіць гнілля.

На Барыса хлеба напарыся, ды за раллю бярыся.

На ранняй раллі родзіць жыта ды пшаніца.

На позняй раллі родзіць куколь і мятліца.

Буслы кружацца высока — доўга будзе стаяць добрае надвор'е. Буслы высока ўзлятаюць — сонейка заклікаюць.

Пасля Іллі дажджу і баба фартухом нагоніць.

Глядзі восень па Макрыне. Калі ў гэты дзень мокра — восень будзе мокрая.

Ад Спаса — халодныя росы.

Калі брушніцы паспелі, дык і авёс дайшоў.

## Небяспечныя грыбы і сцены

Пасля катастрофы ў Чарнобылі ўзровень радыяцыі павялічыўся. Не трэба аднак баяцца — яна не пагражае нашаму жыццю і здароўю. Праўдзяцца пастаянныя даследы ўзроўню радыяцыі ў зямлі і ў харчах. У лясным посціле выступае радыеактыўны цэзій. Найбольш яго ў грыбах: каўпаках і польскіх грыбах (podgrzybek). Польскі грыб выкарыстоўвае гэты небяспечны хімічны элемент для сваёй афарбоўкі. Аднак, каб гэтыя грыбы пашкодзілі нашаму здароўю, трэба іх з'есці 80 кілаграмаў. Пагрозай для здароўя з'яўляюцца таксама будаўнічыя матэрыялы, з якіх збудавана наша гарадское жыллё. Таму трэба як найчасцей ветрыць нашы памяшканні, каб у іх не згушчаліся шкодныя элементы.

**Андрэй Гаўрылюк**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (150 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Напаляваўся

Паляўнічы Нікaнор,
Зранку выйшаўшы на двор,
Схапіў стрэльбу, ну, абрэз
Ды пайшоў у зялёны лес.
Трэба ж зайку ўпаляваць,
Госцеек пачаставаць.
У лес зайшоў, хадзіў-хадзіў,
Аднак заяц хітры быў.
Калі толькі пачуў страх,
Узяў схаваўся у карчах.
А разява Нікaнор
Усё далей-далей папёр.
Апынуўся ля балот.
Льецца градам з яго пот,
А ў балоце спаў кабан
Дзікі, чорны, як саган.
Спужаўшыся мужыка
Як не дасць ён драпака!
А лавец наш, Нікaнор,
Кінуў стрэльбу, ды папёр.
Ён наўцёк — кабан за ім,
Напужаў яго зусім.
Каму смех, яму жа страх,
Ды бяжыць, што сіл ў нагах.
Як дабег ён да сяла,
Дык ахвота ўся прайшла.
Паляваць ад гэтых пор
Адвучыўся Нікaнор.

„Улас"






Мал. М. Сеўлюка

## СМЕХ У САНАТОРЫІ
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Казік, крадуць наш самаход! — крычыць жонка да мужа-міліцыянера.

Казік хапае пісталет і выбягае на стаянку. Па хвіліне вяртаецца задаволены.

— Ну і што злавіў іх? — пытае жонка.

— Не, але паспеў запісаць рэгістрацыйны нумар.

* * *

Пытанне да Радыё Ерэван:

— Ці гэта праўда, што морква ўзмацняе патэнцыю ў мужчын?

— Так, гэта праўда, толькі цяжка яе прымацаваць.

* * *

— Якой нацыянальнасці быў Амур?

— Савецкай: бегаў з голым задам, узброены па зубы, страляў да людзей і гаварыў, што ўсё гэта з любві.

* * *

— Як вам жывецца? — пытае Хрушчоў пажылую бабульку.

— Бачыце, калі прыйшлі чырвоныя стала нам цяжка жыць.

— А пасля?

— Пасля прывыклі.

* * *

Бабулька прыйшла ў ветэранскую арганізацыю. Пытаюць яе пра ваенныя заслугі.

— Калі была вайна, памагала партызанам, — адказвае.

— Як памагалі?

— Насіла ім у лес хлеб, малако, саланіну.

— Пэўна ўдзячны былі?

— Яшчэ як! Усе гаварылі гут, данке.

— Бабулька, то ж гэта былі немцы!

— Так, але з ГДР.

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 16. Раскірэк Цівун

— Угу, каго я бачу, уся маладая Зона тут сабралася. — Раскірэк Цівун вітаўся з характэрнай сабе празмернай сардэчнасцю, але таксама і некаторым пафасам.

— Зонныя байцы, можна сказаць — падхапіў Шызахрэн. Раскірэк Цівун не толькі добра ведаў мову Зоны, але і склаў ейную граматыку для маленькіх зонаўцаў. Таму ўмеў ён дацаніць бліскучае слоўца.

— О-хо-хо-хо! Малайцы-байцы. Добра, што вас тут бачу. Слава Богу. Ці паверыце, што ўчора выходжу я сабе з царкоўкі і спакойненькім крокам хачу ісці дахаты, а той наш..., як яго звацъ..., ну той...

— Хто такі? — Хмялько з нескрываней цікаўнасцю павярнуўся і спрабаваў дамагчы.

— Ха-ха, вы добра ведаеце хто..., той жа..., гэты самы..., ну, наш іегемон... Наўсцяж адчыніў акно на другім паверсе сваёй рэзідэнцыі ды давай адтуль памахваць да мяне кулакамі і крычаць. Ах, міленькія! Ці прыстоіць гэта такому чалавеку. Чаго хацеў? Ведаеце, я сапраўды, б'юся ў грудзі, як на споведзі, часамі не магу зразумець, пра што яму ідзе. Ну, але ўсё — канец. Не буду я на іх гараваць. Паўтару яшчэ раз з рукой на сэрцы — не буду ўжо ім служыць.

Тут Раскірэк Цівун вельмі хутка ўпаў у нарыхтаваны яму ў „Месячніку" фатэль, а затым у задуменне. Усё жыццё ў Раскірэкі Цівуна мусіла быць ідэя, якой аддаваўся ён без рэшты, з несустраканай заангажаванасцю і пажадлівасцю. Шызахрэн аднойчы рызыкнуў навт сцвярджэнне, што калі дойдзе да страшнага суда і апынецца перад ім уся Зона, то Раскірэк Цівун будзе там прынамсі „стэльваным". Не таму, каб не знайшлося ў той момант больш дастойнага ці маральнага кандыдата, але таму, што не знойдзецца лепшага... прафесіянала. Што датычыць такога лакейства, ці звычайнага гайдуцтва, то Арыстоцель Ванько пайшоў яшчэ далей у сваіх высновах. Сцвердзіў, што схільнасцю зонаўца да служэння лепшаму пану, падпанку (а нават і простаму панку) можна апраўдаць не толькі шмат якія рысы ў характары зонаўца, але і веснавую праступу.

У абраную справу Цівун укладаў увесь жар сэрца, жоўць і яд. Пішучы пра складанае геапалітычнае палажэнне Зоны, ён сцвердзіў наступнае:

*(...) нараз мы ўжо пацярпелі ад замбарскіх каланіяльных замашкаў. Нараз зонаўскія косці раструшчваліся пад жандарскім чаравікам Замбара. Але тут жа трэба сказаць, што і любагорскі панскі пантофельчык не лепшы. Абцасік у ім такі востранькі, што лязо ягонае ўпіваецца-пранікае ў само сэрца Зоны...*

Часамі Цівуна папракалі ў ягоным пісьменстве, навошта толькі заўзятасці і нянавісці — казалі яму. Але Цівун не змяніўся — яшчэ больш палка і хціва хапаўся за сваю справу. Быў ён невялікага росту, салідна наліты целам, а калі нешта тлумачыў — укладаў у размову ўвесь свой багаты набор жэстаў.

— Я зарана нарадзіўся, — Цівун прачмухаўся з задумення. — Вось, каб вашы мне гады, хлопчыкі, можна было б яшчэ...

Думкі сваёй не скончыў, але тут жа хітра ўсміхнуўся і павярнуўся ў бок Лёліка Назарэза.

— Скажу, аднак, вам нешта ў сакрэце. Я камунар — яшчэ старога добрага замбарскага набору. Вы цяпер гуляеце сабе ў „Гонях". Але вось, мне памятаецца, была там цалкам іншая дысцыпліна...

Тут усім успомніўся жахлівы гратэск, які і цяпер тайком паўтараецца між супрацоўнікаў. Раскірэк Цівун, выправіўшы папярэдніка ў бальніцу ды адчуўшы сябе паўнакроўным прэзідэнтам „Гоняў", стаў выклікаць супрацоўнікаў на размову. Каб прыдаць сабе павагу, усеўся за прэзідэнцкі стол і спрабаваў выцягнуць ногі пад яго. Але, з-за малога росту, галава з'ехала яму пад барodkам на стол. Каб неяк выратаваць сябе з гэтай клапатлівай сітуацыі, узняў па-над стол руку і пагрозліва памахаў пальчыкам у бок публікі.

— Ну, ну то што мы зробім, міленькія... — сказала галава са стала.

Сабраныя змаўчалі гэты пачатак.

— ...бо мне здаецца, шаноўныя супрацоўнікі, што ўрэшце трэба прыкараціць гэтыя перапыначкі і беганіну па крамах у час працы.

Сабраныя насцярожыліся.

— Я кажу: ад гэтага моманту — канец. Нават у туалет выходзіш — прасі дазвол!

Званок тэлефона перабіў плынь успаміну. Хмялько прыслухваўся якую хвіліну і, нязграбна здушыўшы ўсмешку, перадаў трубку Раскірэку.

— Гэта вам, ад... — тут ён задумаўся і суцішыў голас — іегемона.

Раскірэк Цівун слухаў якіхсьці пяць хвілін, паўтараючы напeрамен „разумеецца" і „вельмі шмат ласкі, ваша міласцівасць", а затым выйшаў на кoратка, вярнуўся, апрануўся і стаў развітвацца.

— Урэшце пасікаў. Іду, пара мне...




Наймілейшае Сэрцайка! Скажы ці гэта магчыма? Мінула 9 гадоў ад таго часу, калі з закахаўся, а я і сёння хаджу, як непрытомны. Не, не падумай, што я закаханы ў жанчыну, якая стала маёй жонкай. У сэрцы маім сядзіць тая першая дзяўчына, якую я пакахаў калісьці, будучы на канікулах у Аўгустове.

Я нават не збіраўся нікуды ехаць, але неспадзявана сябры паведамілі мне, што ёсць свабоднае месца на парусной лодцы. Я добра плаваю, у парусах таксама разбіраюся — вырашыў ехаць.

І хто б падумаў, што ў пэўны момант наша лодка прычаліць да прыстані спартыўнага лагера, дзе была яна! Лодку трэба было адрамантаваць, бо пачала працякаць. Але хлопцы, пакуль рамонт, узяліся за тутэйшых дзяўчат. Яны былі, як сарны, а плавалі, як рыбы. Высокія, шчуплыя і прыгожыя. Спартсменкі!

Адна сядзела на беразе. Ні з кім не рагатала, не пачынала гаворкі. Думала нешта сваё. Я прысеў каля яе і таксама маўчаў. Што будзе з лодкай? — хадзіла па галаве неадчэпная думка. А пасля я нешта запытаўся ў дзяўчыны. Яе твар пасвятлеў ад шырокай усмешкі, у якой паказала яна ўсе свае ці не трыццаць два беласнежных зубы.

У доміку, які пазычылі нам у гэтым лагеры, я меў добрае месца, але не мог ніяк заснуць. Цэлую ноч круціўся на месцы, а яна са сваёй усмешкай не знікала з маіх вачэй. Так я прамучыўся да раніцы. Калі ўбачыў яе на другі дзень, у сэрцы нешта ёкнула. Ну, прапаў — падумаў бы я сёння. Але тады не ведаў, што мяне чакае.

Дзяўчына, як аказалася, не была такая ціхая. Ведала ўсё і дазволіла мне наблізіцца да яе. Божа, як было цудоўна! Хлопцы не спяшаліся рамантаваць лодку, бо таксама прычалілі моцна. Кожны знайшоў дзяўчыну, аднак мая была найпрыгажэйшая.

Тыдзень забыцця скончыўся таксама нечакана, як і пачаўся. Высветлілася, што дзяўчына пасварылася са сваім хлопцам, з якім хадзіла яна ўжо даволі доўга. Хлопец узлаваўся і выехаў дадому. Ён не спадзяваўся, што яна так хутка знойдзе сабе яго намесніка. Хацеў, каб яна крыху памучылася. Вось таму і сядзела яна тады ў задуменні на беразе. Нехта яе хлопцу даў знаць пра мяне, і ён вярнуўся ў лагер першым аўтобусам.

Ад гэтага моманту „мая" дзяўчына не вылазіла з яго доміка. Я перастаў існаваць для яе. А я думаў, што гэта на ўсё жыццё! Не мог знайсці сабе месца. Шукаў яе, але бачыў яе толькі ў кампаніі гэтага хлопца і іншых. І яна, і ён глядзелі на мяне, як на пустое месца.

А праз пару дзён лодка ўсё ж была адрамантавана, і мы адплылі. Хлопцы жартавалі і рагаталі з тых дзяўчат, з якімі гулялі ў лагеры. Адно я быў маркотны. Ім што! Гэта яны кінулі дзяўчат. А я, разбіты і апляваны, адчуваў сябе, быццам пакрыўджанае і ашуканае дзіця. Нешта падобнае перажываў я часамі ў дзяцінстве, калі мой найлепшы сябра пачынаў сябраваць з іншымі.

Але не гэта найстрашнейшае. Дзяўчына засела ў маім сэрцы, быццам нейкая стрэмка. Доўга я жыў успамінамі, а пасля вырашыў, што клін — клінам. Жаніўся. Думаеш, памагло? Праўда, што першыя гады давалі мне нейкую сатысфакцыю ў палавых зносінах. А пасля ўсё стала звычайным і нецікавым. Я ўсё мацней пачаў думаць пра тую першую дзяўчыну. Мо яна не выйшла замуж?! Мо варта паехаць да яе (я ведаў, што яна жыве ў суседнім мястэчку) і сустрэцца?.. Мо і яна расчаравалася жыццём...

Як ты раіш, Сэрцайка, ці варта пачынаць усё спачатку?

**Сцяпан**

Сцяпан! Можна зразумець тваю роспач і сум. З жонкаю пражыў ужо нямала — паспеў прызвычаіцца да яе, а гарачыя пацалункі расплыліся ў паветры, быццам іх і не было. Ужо захацелася табе новых змен у жыцці. А тая дзяўчына ўжо адзін раз цябе навучыла. Сустрэнься, сустрэнься! — Мо адразу ўсё стане на свае месца, ды і жонка будзе здавацца табе анёлам.

Іншая справа, што сёння б табе такое не пагражала. Даваўлся мне быць нядаўна на аўгустоўскіх азёрах. Пуста на вадзе, мала лодак — і парусных, і байдарак. Ды і лагераў амаль няма. Сёння б ты так хутка дзяўчыну не знайшоў і не было б прычыны да горкіх думак.

**Сэрцайка**